• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

6 красавіка 1996 г.
субота, № № 94 — 95
(22897— 22898)



# ЗВЯЗДА

## ПАВОДКА

# ГРОЗНЫ ВАЛ УЖО КОЦІЦЦА

**Да ўчарашняга дня на рэках Гомельшчыны было спакойна: яны спалі пад тоўстым панцырам лёду. Але гэта зусім не азначала, што людзям і арганізацыям рознага ўзроўню можна было не хвалявацца. Наадварот, яны ажыццяўлялі комплекс мераў для таго, каб стварыць заслону магчымым ударам стыхіі.**

Аб гэтым ішла заклапочаная размова на пашыранай нарадзе ў Мазыры з удзелам кіраўнікоў і спецыялістаў розных арганізацый і штабоў грамадзянскай абароны сумежных з Гомельскай і Брэсцкай абласцей рэгіёнаў суседняй Украіны. Там было дамоўлена дзейнічаць аператыўна і ўзгоднена і прапусціць воды Дняпра, Прыпяці, іншых рэк з такім разлікам, каб не было нанесена вялікай шкоды і насельніцтву, і народнай гаспадарцы.

У раёнах, дзе чакаецца падтапленне населеных пунктаў, заканчваліся апошнія работы па ўмацаванню дамбаў, уборцы тэрыторыі ад бытавога і вытворчага смецця, у бяспечнае месца перавозіліся ядахімікаты, мінеральныя ўгнаенні, нафтапрадукты, правяраўся стан палёў фільтрацыі, адстойнікаў у зонах магчымага падтаплення. Выконваўся і шэраг іншых неадкладных работ. Ва ўсякім разе, аб гэтым у вобласць ішлі з раёнаў рапарты: паводку сустрэць там гатовы.

Два апошнія дні тыдня прынеслі плюсавую тэмпературу ў вобласці ад двух--чатырох градусаў уначы да дзевяці--адзінаццаці, а месцамі і да чатырнаццаці -- удзень. І адразу пачалося: хаця ў большасці сваёй рэкі яшчэ не вызваліліся ад лёду, але пачаўся выхад вады на пойму. У ноч з 4 на 5 красавіка (а дакладней -- за суткі) яна паднялася, напрыклад, на Бярэзіне ў раёне Светлагорска на адзін, а на Бесядзі, у раёне Свяцілавіч, -- на 11 сантыметраў. А на выхадныя дні, калі спраўдзіцца прагноз метэаролагаў (будзе ісці далейшае пацяпленне), чакаецца паўсюднае распаўсюджванне вады на лугі і поймы. Прычым рэзкае.

Калі я быў у абласным штабе грамадзянскай абароны, туды прынеслі тэлеграму, у якой паведамлялася, што ў наступныя тры дні ўзровень на Дняпры ў Жлобінскім і Рэчыцкім раёнах павысіцца адпаведна на 140 і 165 сантыметраў. Найбольшая ж небяспека, відаць, будзе ў Жыткавіцкім і Петрыкаўскім раёнах, дзе, згодна з так званым каталогам небяспечных адзнак, гэты ўзровень можа павысіцца адразу на 280 і 577 сантыметраў адпаведна.

Атрымаўшы гэтыя звесткі, выконваючы абавязкі начальніка штаба грамадзянскай абароны палкоўнік Анатоль Яфімаў пачаў тэлефанаваць кіраўнікам аблвыканкома аб такім становішчы, заначыўшы мне пры гэтым, што, магчыма, у вобласці трэба будзе ўводзіць надзвычайны рэжым. Дык што прынясуць наступныя дні?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## *БЕЛАРУСКАМУ ТАВАРЫСТВУ ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНАЙ СУВЯЗІ З ЗАМЕЖНЫМІ КРАІНАМІ*

*Сардэчна віншую Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі з 70-годдзем утварэння, каля вытокаў якога стаялі вядомыя ў свеце народныя паэты Якуб Колас і Янка Купала.*

*На працягу дзесяцігоддзяў Таварыства дружбы плённа вядзе інфармацыйна-азнаямленчую работу сярод замежных грамадзян, прадстаўляе свету беларускія нацыянальныя традыцыі, культуру, літаратуру і мастацтва, набываючы шматлікіх сяброў.*

*Асаблівае значэнне ў дзейнасці Таварыства ўдзяляецца дружбе, заснаванай на этнічнай, гістарычнай і духоўнай блізкасці.*

*Ваша дзейнасць вядома ў 70 краінах свету і цэніцца іх шматлікімі грамадскімі арганізацыямі.*

*Вынікам актыўнай работы Таварыства па развіццю сувязей пароднёных гарадоў з'яўляецца тое, што сёння 20 гарадоў Беларусі маюць партнёрскія адносіны з 46 гарадамі 18 краін свету.*

*Шырокія міжнародныя сувязі Беларускага таварыства дружбы садзейнічаюць прыцягненню ўвагі сусветнай грамадскасці да постчарнобыльскіх праблем у рэспубліцы. Апрача гуманітарнай дапамогі раёнам, што пацярпелі, устанаўліваюцца карысныя партнёрскія сувязі паміж установамі і прадпрыемствамі, наладжваюцца сяброўскія сямейныя кантакты.*

*Дом дружбы збірае і саграе душэўнай цеплынёй людзей розных нацыянальнасцей, дапамагаючы адзін аднаму знайсці агульную мову ўзаемаразумення, садзейнічаючы грамадскай згодзе.*

*Прыміце маю ўдзячнасць за важкі ўклад у развіццё міжнародных адносінаў, супрацоўніцтва недзяржаўных структур, папулярызацыю нацыянальнай культуры за мяжой і далучэнне суайчыннікаў да дасягненняў сусветнай культуры.*

*Далейшых поспехаў Вам і добрага здароўя.*

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПАРЛАМЕНТАРЫІ ЕДУЦЬ З ВІЗІТАМ У АДКАЗ У МАСКВУ

З 9 па 12 красавіка адбудзецца афіцыйны візіт у Маскву беларускай парламенцкай дэлегацыі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім. У ходзе візіту плануецца падпісанне сумеснага пагаднення старшынямі палат Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Прадугледжаны таксама сустрэчы з Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Барысам Ельцыным, Старшынёй урада Віктарам Чарнамырдзіным, Старшынёй Дзяржаўнай думы Генадзем Селязнёвым, старшынёй Савета Федэрацыі Ягорам Строевым, мэрам Масквы Юрыем Лужковым.

10 красавіка Сямён Шарэцкі выступіць на пленарным пасяджэнні Дзяржаўнай думы.

Члены беларускай дэлегацыі правядуць сустрэчы з кіраўнікамі некаторых фракцый Дзярждумы, з прадстаўнікамі беларускай дыяспары, наведаюць адно з аграрных прадпрыемстваў Маскоўскай вобласці.

Сярод удзельнікаў дэлегацыі -- кіраўнікі шэрага пастаянных камісій і фракцый парламента.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 237*

АБ ПЕРАНОСЕ РАБОЧЫХ ДЗЁН

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Перанесці рабочыя дні з панядзелка, 22 красавіка, на суботу, 20 красавіка, і з пятніцы, 10 мая, на суботу, 4 мая 1996 г.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

4 красавіка 1996 г., г. Мінск.

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ВЫСТУПІЦЬ НА МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ Ў ВЕНЕ, ПРЫСВЕЧАНАЙ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЮ АВАРЫІ НА ЧАЭС

**Рабочы візіт дзяржаўнай дэлегацыі Беларусі на чале з Прэзідэнтам рэспублікі Аляксандрам Лукашэнкам у Аўстрыйскую рэспубліку адбудзецца 9 красавіка.**

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, кіраўнік дзяржавы выступіць на міжнароднай канферэнцыі «Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля», якую ў супрацоўніцтве з ААН арганізуюць і праводзяць Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі, Сусветная арганізацыя аховы здароўя і Камісія Еўрапейскіх супольніцтваў. На канферэнцыю запрошаны трыццаць вучоных з Беларусі, многія з якіх выступяць з дакладамі.

Акрамя ўдзелу ў міжнародным форуме, Аляксандр Лукашэнка сустрэнецца з федэральным канцлерам Аўстрыі Францам Враніцкім. У час гэтай сустрэчы плануецца абмеркаванне шырокага круга пытанняў, якія датычаць удзелу беларускіх прадпрыемстваў у сумесных праектах у рамках аўстрыйскай крэдытнай лініі. Як вядома, Аўстрыя з'яўляецца адным з найбольш актыўных удзельнікаў працэсу мадэрнізацыі эканомікі ў нашай рэспубліцы і выдзеліла ў 1994 годзе каля 500 мільёнаў долараў на рэалізацыю ў Беларусі розных праектаў.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## ПЫТАННЯЎ АБ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІМ ДАГАВОРЫ Ў ЗАМЕЖНЫХ ДЫПЛАМАТАЎ НЕ ЗАСТАЛОСЯ

**Па ініцыятыве Міністэрства замежных спраў Беларусі вечарам 4 красавіка ў знешнепалітычным ведамстве рэспублікі адбылася сустрэча першага намесніка міністра замежных спраў Валерыя Цапкалы з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у нашай рэспубліцы.**

Асноўнай тэмай размовы стаў падпісаны 2 красавіка ў Маскве прэзідэнтамі Беларусі і Расіі Дагавор аб стварэнні Супольніцтва.

Валерый Цапкала азнаёміў дыпламатаў з некаторымі пунктамі гэтага дакумента, асабліва спыніўшыся на ствараемых у рамках Супольніцтва выканаўчых органах. Паводле яго слоў, у адрозненне ад СНД Супольніцтва будзе мець уласны бюджэт, сфарміраваны абедзвюма краінамі. Валерый Цапкала падкрэсліў, што за аснову фарміравання выканаўчых органаў Супольніцтва быў прыняты вопыт краін Еўрапейскага саюза. Асноўнай жа задачай міждзяржаўнай структуры, сказаў ён, будзе стварэнне механізма эканамічнай інтэграцыі дзвюх дзяржаў.

Дыпламат адзначыў, што наднацыянальныя органы не стануць нейкай абстрактнай структурай. Усе іх рашэнні будуць прымацца на парытэтных асновах, пасля кансультацый з зацікаўленымі асобамі абедзвюх дзяржаў. Паводле слоў Валерыя Цапкалы, у дагаворы таксама апісаны і этапы рэалізацыі супрацоўніцтва з іншымі краінамі.

На ўсе пытанні замежных дыпламатаў у час сустрэчы Валерый Цапкала даў дакладныя адказы.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

### *РЭХА ПАДЗЕЙ*

## ПАЧУЙЦЕ ГОЛАС МЕНШАСЦІ

**Мінулы тыдзень прайшоў пад знакам новага інтэграцыйнага імпульсу, ініцыіраванага Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Супольніцтва, утворанае 2 красавіка Расіяй і Беларуссю, -- трэцяе буйное міждзяржаўнае ўтварэнне, якое ўзнікла на прасторах былога СССР і ў якім наша краіна імкнецца іграць далёка не апошнюю ролю.**

Галоўная праблема, якая неадкладна паўстае перад новай міждзяржаўнай арганізацыяй, -- эфектыўнасць яе дзейнасці. І Супольніцтва, і створаны тыдзень таму «Саюз чатырох» -- па вялікаму рахунку, рэакцыя на нізкую аддачу ад Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якую Прэзідэнт Лукашэнка не без падстаў часам называе «палітычным клубам». Можна прадбачыць, што канкрэтныя крокі ў рамках Супольніцтва можна будзе рабіць усё ж значна лягчэй, чым у СНД. Па-першае, таму што ў абодвух суб'ектаў аб'яднання ёсць палітычная воля і зацікаўленасць да збліжэння. Па-другое, гэтыя працэсы будзе ўсяляк падштурхоўваць галоўны ініцыятар саюза -- Аляксандр Лукашэнка, абраны кіраўніком Вышэйшага савета новай арганізацыі. Для яго эфектыўнасць Супольніцтва -- гэта яшчэ і пытанне ўласнай палітычнай будучыні.

Другая значная падзея, якая адбылася 2 красавіка, -- масавая маніфестацыя пратэсту ў Мінску. Апазіцыйныя сілы выступілі супраць утварэння беларуска-расійскага саюза, паколькі бачаць у ім пагрозу незалежнасці Беларусі.

Цяжка назваць дакладную колькасць тых, хто прыняў удзел у гэтай маніфестацыі (якую, дарэчы, забаранілі ўлады). Лічбы ў гэтым выпадку сталі палітычнай зброяй: адны сілы іх упарта заніжаюць, другія -- завышаюць. І ўсё ж, паводле ацэнак незацікаўленых назіральнікаў, людзей прыйшло шмат: па самых сціплых прыкідках, у шэсці ўдзельнічалі не менш як два дзесяткі тысяч асоб.

Вартыя ўвагі некаторыя акалічнасці, звязаныя з гэтай акцыяй пратэсту. Па-першае, яна была ў значнай ступені стыхійнай. Многія выйшлі на вуліцу не столькі па закліку пэўных палітычных сіл, колькі кіруючыся грамадзянскім непакоем за лёс краіны. Да таго ж, лідэраў БНФ у калоне ўвогуле не было бачна.

Па-другое, удзел у акцыі прыняла галоўным чынам моладзь. І гэтым маніфестацыя 2 красавіка кардынальным чынам адрознівалася ад афіцыйнай акцыі, наладжанай пры падтрымцы пракамуністычных сіл 31 сакавіка. Назіранне гэта маласуцяшальнае для ўлады. Падрастае новае пакаленне, з іншымі, чым у бацькоў і дзядоў, уяўленнямі пра грамадзянскія каштоўнасці. Зразумела, іх сёння меншасць. Аднак, калі ўлада дбае пра захаванне грамадзянскай згоды ў дзяржаве, не ўлічваць пазіцыю гэтай меншасці нельга.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## *ЯК НАС ДУРАЦЬ*

# А Ў СУМЦЫ ЛЯЖАЎ... ЗЛОДЗЕЙ

Гандаль на Цэнтральным калгасным рынку ў Гомелі заканчваўся. Старшая кладаўшчыца камеры захоўвання багажу Людміла Каляснёва ўжо збіралася ісці дадому, як у гэты момант моцнага целаскладу дзяцюк на гаспадарчай цялежцы прывёз у камеру вялізных памераў брызентавую сумку. У сваіх кліентаў жанчына бачыла і большыя торбы, але ў дадзеным выпадку яе здзівіла і насцярожыла тое, што хлопец вельмі ўжо згінаўся пад цяжарам грузу, калі знімаў яго з цялежкі і спрабаваў паставіць на ніжнюю паліцу камеры.

-- Што гэта ў вас там? -- пацікавілася яна.

-- Ды так, рэчы розныя, -- быў адказ.

-- А не дынаміт ці нешта яшчэ больш небяспечнае? -- не адступала кладаўшчыца. -- Пакажыце, -- і яна абмацала сумку з бакоў.

Там было нешта цвёрдае. Хлопец увесь неяк напружыўся, занерваваўся. Падышоў грузчык Аляксандр Прывалаў, які чуў усю гэту размову, расшпіліў на сумцы замок. Кладаўшчыца запусціла туды руку, адкінула зверху адну рэч, другую і ўбачыла там... чалавека, які з заплюшчанымі вачыма нерухома ляжаў на дне сумкі. Немы крык вырваўся з яе грудзей: труп! Пачуўшы гэта, прыбег загадчык камеры захоўвання Вадзім Хадаровіч, які з цікавасцю сачыў, як «труп» выкараскаўся з сумкі і куляй памчаў да выхаду. Аляксандр Прывалаў у два скачкі дагнаў яго, а Хадаровіч узяў за каўнер яго «насільшчыка». Каляснёва тым часам пазваніла ў міліцыю, адкуль з'явіліся два дужыя сяржанты.

Зламыснікамі аказаліся дваццацігадовыя беспрацоўны Віталь А. і раней умоўна асуджаны за спробу крадзяжу навучэнец аднаго з прафтэхвучылішчаў Віктар К. Яны прызналіся, што наглядзеліся замежных дэтэктываў і, трохі ўдасканаліўшы прыёмы іншаземных зладзеяў у адпаведнасці з нашымі рэаліямі, вырашылі патрэсці камеру захоўвання. Віктар пераначаваў бы там, забраўшы каштоўнасці з іншых сумак, а Віталь раніцай па жэтону вынес бы яго адтуль. Не атрымалася. Бо ў нас, аказваецца, кладаўшчыкі -- самыя лепшыя ў свеце.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ ДАГАВОР ВАЧАМІ ЗАМЕЖНЫХ ДЫПЛАМАТАЎ

***Ужо даволі шмат і на розных узроўнях гаварылася аб падпісаным 2 красавіка ў Маскве беларуска-расійскім Дагаворы аб утварэнні Супольніцтва. Думкі выказваюцца розныя, але ніхто не можа адмаўляць, што гэты крок абедзвюх дзяржаў з'яўляецца важнай вяхой у іх знешнепалітычным жыцці. У сувязі з гэтым цікавая думка замежных дыпламатаў наконт падпісаных у Маскве дакументаў. Якой ім бачыцца будучыня новага Супольніцтва? З такім пытаннем карэспандэнты БЕЛТА звярнуліся да кіраўнікоў шэрага дыпламатычных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у нашай рэспубліцы.***

**Павел КРАЛ, прадстаўнік ААН у Рэспубліцы Беларусь.**

Любое падобнае пагадненне аб больш цесным супрацоўніцтве паміж дзвюма суверэннымі дзяржавамі павінна разглядацца станоўча. Абедзве дзяржавы: і Беларусь, і Расія, якія знаходзіліся ля вытокаў утварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пяцьдзесят гадоў таму, на працягу доўгіх гадоў мелі цесныя сацыяльна-эканамічныя сувязі. У апошнія пяць гадоў у абедзвюх краінах адбываюцца карэнныя пераўтварэнні на шляху да дэмакратызацыі грамадстваў і трансфармацыі эканамічных структур у напрамку свабоднага рынку. Як вядома, дагэтуль беларуская эканоміка знаходзілася ў вельмі цяжкім становішчы з-за таго, што многія сыравінныя рэсурсы, а таксама традыцыйныя рынкі збыту прадукцыі знаходзіліся ў Расіі і іншых дзяржавах былога Савецкага Саюза. У сувязі з гэтым, калі пагадненне дасць магчымасць Беларусі пераадолець яе цяперашняе складанае эканамічнае становішча, рухацца хутчэй па шляху рэформаў, яго можна лічыць пазітыўным.

Бадай, адзіную заклапочанасць у мяне выклікае той факт, што новы дагавор можа разглядацца некаторымі краінамі-донарамі даволі негатыўна, і гэта можа адбіцца на нашых уласных праграмах, якія ў многім залежаць ад іх падтрымкі. Як вядома, некаторыя дзяржавы настроены вельмі адмоўна ў сувязі з марудным працэсам рэформаў, што праводзяцца ў Беларусі. Яны могуць разглядаць гэта пагадненне як спробу з боку Беларусі пазбегнуць прыняцця цяжкіх рашэнняў, якія датычаць такіх пытанняў, як рэструктурызацыя эканамічнага сектара, прыватызацыя, рыначныя рэформы, інвестыцыі і шэрага іншых.

Тым не менш, я спадзяюся, што гэта пагадненне дапаможа Беларусі пераадолець цяжкасці няпростага пераходнага перыяду, а мы ў сваю чаргу гатовы аказаць любую магчымую дапамогу ў гэтым.

**Кенэт Спенсэр ЯЛОВІЦ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі.**

Злучаныя Штаты ўсведамляюць важнасць дружалюбных адносінаў і эканамічнага супрацоўніцтва паміж усімі краінамі рэгіёна. У нас не было магчымасці азнаёміцца з тэкстам дагавора, аднак мы адзначаем запэўніванні абодвух бакоў у тым, што ён заключаецца суверэннымі дзяржавамі і не робіць замах на іх незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць.

Мы разумеем, што Беларусь і Расія імкнуцца да ўмацавання супрацоўніцтва і двухбаковых праграм у эканамічнай, навуковай, тэхналагічнай і іншых сферах. У той жа час ЗША неаднаразова заклікалі абедзве краіны пазбягаць стварэння бар'ераў, якія б перашкаджалі інтэграцыі гэтых краін і іх эканомік у сусветнае супольніцтва па меры ўмацавання ўзаемных эканамічных сувязей.

**Уладзімір ЖАЛІБА, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Беларусі.**

Ацэньваючы падпісанне дагавора паміж Расіяй і Беларуссю аб стварэнні Супольніцтва, Украіна зыходзіць з таго, што суверэнным правам кожнага народа з'яўляецца выбранне той або іншай формы свайго дзяржаўнага быцця, якая адпавядала б яго гістарычным, нацыянальным і культурным традыцыям. Гэта датычыць і ўваходжання ў саюз з той ці іншай дзяржавай.

Не сакрэт, на Украіне розныя палітычныя сілы па-рознаму, у тым ліку і з незадавальненнем, сустрэлі новы дагавор. Рэальнасць жа такая, што Украіна заўсёды надавала прыярытэтнае значэнне ўкраінска-расійскім і ўкраінска-беларускім адносінам, іх будучыню яна бачыць у развіцці сапраўды добрасуседскіх, дружалюбных, раўнапраўных і ўзаемавыгадных эканамічных, гуманітарных, культурных сувязей, заснаваных на павазе суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці, непарушнасці дзяржаўных граніц, неўмяшання ў справы адна адной.

Прынцыпова выступаючы супраць спроб адрадзіць у якой-небудзь форме былы Савецкі Саюз, Украіна будзе развіваць свае адносіны з Беларуссю і Расіяй на агульнапрызнаных міжнародных прававых прынцыпах. Што датычыць непасрэдна Беларусі, то, улічваючы агульнасць гістарычнага лёсу, стагоддзямі існуючыя эканамічныя, гуманітарныя і чыста чалавечыя сувязі, украінская дзяржава бачыць сваю задачу ў тым, каб напоўніць іх новым зместам.

**Клод ЖАЛІФ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі.**

Я не маю права каменціраваць рашэнні кіраўнікоў іншых дзяржаў. Тым не менш магу толькі падтрымаць пункт гледжання, выказаны раней Міністэрствам замежных спраў Францыі. Наша краіна ніякім чынам не мае намеру перашкаджаць стварэнню новых фарміраванняў на тэрыторыі Еўрапейскага кантынента. І калі Беларусь і Расія пажадалі стварыць Супольніцтва — значыць яны зацікаўлены ў яго існаванні.

**БЕЛТА.**

# СКОНЧЫЎ ЖЫЦЦЁ САМАГУБСТВАМ...

**У Гродне завершана расследаванне прычын і акалічнасцей смерці былога начальніка ўпраўлення аховы здароўя аблвыканкома Уладзіміра Белазерцава. 11 снежня мінулага года а трэцяй гадзіне ночы яго труп быў знойдзены на казырку даху будынка аблвыканкома.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў абласной пракуратуры, у ходзе расследавання крымінальнай справы па факту гібелі Уладзіміра Белазерцава ўстаноўлена, што ён скончыў жыццё самагубствам.

Крымінальная справа пасля трохмесячнага расследавання спынена з-за адсутнасці саставу злачынства. Змест пакінутых загінуўшым перадсмяротных запісак сведчыць, што ён зрабіў памылку, даверыўшыся несумленным людзям, а тыя прысвоілі дзяржаўныя грошы. У гэтым, як указана ў адной з запісак, ён вінаваты як кіраўнік, за што і павінен расплачвацца.

У ходзе расследавання ўстаноўлены факт, на які спасылаўся загінуўшы. У верасні—кастрычніку 1995 года Гродзенскі абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі на сродкі, пералічаныя ўпраўленнем аховы здароўя, набыў у ТАА «Белфармсервіс» па двух дагаворах больш як 123 тысячы кілаграмаў дэзінфіцыруючага сродку на суму 970,6 мільёна рублёў.

Пры гэтым цана на яго ў параўнанні з дзяржаўнай была неабгрунтавана завышана. У выніку абласным цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі пераплачана «Белфармсервісу» 182,2 мільёна рублёў бюджэтных сродкаў. Гэты факт быў ускрыты рэвізіяй і стаў вядомы ў Міністэрстве аховы здароўя, у сувязі з чым было прынята рашэнне звярнуцца ў праваахоўныя органы. Як растлумачылі дапытаныя па справе сведкі, а таксама члены сям'і загінуўшага, ён моцна перажываў па гэтай прычыне і, як відаць з матэрыялаў следства, скончыў жыццё самагубствам, выкінуўшыся з акна сёмага паверха будынка аблвыканкома.

Па факту прычыненага дзяржаве ўрону з-за пераплаты грашовых сродкаў пры закупцы прэпарата і парушэнняў у дзейнасці Гродзенскага абласнога ўпраўлення аховы здароўя пракуратурай вобласці ўзбуджана крымінальная справа.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

# СЯМЁН ШАРЭЦКІ ПАЗНАЁМІЎ ЛЕАНІДА КУЧМУ З ДАКУМЕНТАМІ, ПАДПІСАНЫМІ ПРЭЗІДЭНТАМІ РАСІІ І БЕЛАРУСІ

**Сваю паездку па чарнобыльскіх рэгіёнах на чале міжпарламенцкай групы дзяржаў — удзельніц СНД Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі выкарыстаў і для неафіцыйнай сустрэчы з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам, якая адбылася 4 красавіка ў Кіеве.**

«Наша размова закранала дзве тэмы, — паведаміў карэспандэнту БЕЛТА спікер беларускага парламента. — Перш за ўсё Леанід Кучма высока ацаніў ідэю нашай паездкі па чарнобыльскіх рэгіёнах.

Ён далучыўся да тых пажаданняў поспеху, якія мне выказалі перад вылетам з Масквы прэзідэнты Беларусі і Расіі».

Паводле слоў Сямёна Шарэцкага, другой тэмай яго гутаркі з Леанідам Кучмам сталі ўзаемаадносіны паміж Беларуссю, Расіяй і Украінай. Асаблівую цікавасць украінскі прэзідэнт праявіў да беларуска-расійскага Дагавара аб утварэнні Супольніцтва. Сямён Шарэцкі падрабязна азнаёміў Леаніда Кучму з падпісанымі ў Маскве 2 красавіка дакументамі і з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі, якая стала своеасаблівым благаславеннем Аляксандру Лукашэнку на падпісанне гэтага дагавора. Пасля сумеснага аналізу дакументаў Леанід Кучма пажадаў поспеху ў іх рэалізацыі.

У інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА Сямён Шарэцкі адзначыў, што ён задаволены сваёй першай сустрэчай з прэзідэнтам Украіны.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

# КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ І БЕЛСПАЖЫЎСАЮЗ — У ЯКАСЦІ ПАРТНЁРАЎ

**Адбылося падпісанне пагаднення паміж Кабінетам Міністраў і Белспажыўсаюзам на 1996 год.**

Што ж турбуе ўрад, што ж выклікае занепакоенасць у саміх кіраўнікоў спажывецкай кааперацыі? Літаральна ўсе ў адзін голас гаварылі пра адсутнасць неабходных грошай. Былі б абаротныя сродкі — па-іншаму, маўляў, можна было б арганізаваць гандаль. Прэм'ер-міністр М. Чыгір у адказ на гэта заўважыў, што грошай ніколі не будзе хапаць. Калі пачаць аказваць усім фінансавую дапамогу, выдаваць беспрацэнтныя крэдыты, то ў пэўны момант такая ідылія бумерангам ударыць у цэлым па эканоміцы. Яшчэ дзве-тры такія татальныя выплаты зарплаты, заўважыў М. Чыгір, і эканомікі ў нас проста не будзе.

Амаль што ўсе абласныя арганізацыі Белспажыўсаюза панеслі страты (за выключэннем Магілёўскай). Асабліва вялікі «мінус» дае гандаль. Страты даводзіцца пакрываць за кошт развіцця другіх накірункаў дзейнасці. Тут, відаць, трэба нагадаць, што спажывецкая кааперацыя знаходзіцца ў нашмат горшых умовах, чым звычайны гандаль. Белспажыўсаюзу даводзіцца абслугоўваць у асноўным глыбіннага, вясковага пакупніка. А гэта і нізкая пакупная здольнасць, і вялікія транспартныя расходы.

Словам, рэчаіснасць — а пра гэта гаварыў і кіраўнік ўрада, і самі белспажыўсаюзаўцы — патрабуе надзвычай энергічных захадаў, вялікай руплівасці і старання. Шмат што ў сістэме Белспажыўсаюза ўжо зроблена і на сённяшні дзень. Пільную ўвагу надаюць развіццю ўсякага роду промыслаў. Створана каля 300 швейных, ткацкіх і іншых цэхаў. Часам яны даволі невялікія па плошчы, па дзеючых магутнасцях, але тым не менш прыбытак, карысць ад іх ёсць. Ушчыльную ў Белспажыўсаюзе пачалі займацца другаснай сыравінай, нарыхтоўкамі.

Аднаўляюцца парушаныя некалі сувязі па пастаўках сельскагаспадарчай прадукцыі ў іншыя краіны СНД. На сёлетні год ёсць пэўныя планы па продажы, у прыватнасці, бульбы Узброеным Сілам Расіі.

Улічаны леташні вопыт рэалізацыі лісічак. Як ні дзіўна, у спрэчцы за германскі рынак лісічак беларусаў летась адолелі Інданезія і Кітай, прадаючы кілаграм сваіх грыбоў на 1—1,5 маркі танней, чым беларускі бок.

Шмат размоў у ходзе сустрэчы было і пра хлеб. М. Чыгір адзначыў, што трэба браць на ўзбраенне вопыт камерцыйных, прадпрымальніцкіх структур, якія сваімі міні-пякарнямі выцясняюць з рынку буйныя хлебазаводы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ГРОШЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ

Як паведамляюць французскія СМІ, Манетны двор Парыжа выпусціў у абарачэнне першыя манеты euro. Аднак гаворка ідзе толькі пра калекцыйныя экземпляры. «Сапраўдныя» euro, як вядома, будуць мець паўнапраўнае хаджэнне толькі ў канцы стагоддзя. Гэтыя ж манеты адліты з золата. На іх выгравіраваны знакаміты радэнаўскі «Мысліцель». Галоўнай асаблівасцю манет стала іх двайная «вартасць»: 75 euro і 500 франкаў. Кошт манеты складае каля тысячы долараў, а выпушчана іх 5000 штук.

У стварэнні новых грашовых сродкаў Беларусь, відаць, таксама не хоча заставацца ў цяні. Так, у нашай краіне ў сувязі з беларуска-расійскім аб'яднаннем у апошні час ходзяць чуткі аб магчымасці стварэння адзінай грашовай адзінкі. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, гутарка аб стварэнні адзінай валюты вядзецца толькі на палітычным узроўні. Але спецыялісты галоўнага банка і не абверглі той факт, што дэталёвая распрацоўка базы для стварэння адзінай валюты абедзвюх краін можа быць завершана на працягу ўжо гэтага года.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# БЕЛАРУСЬ І ЛІТВА АБ'ЯДНОЎВАЮЦЬ ДЗЕЯННІ

Небяспека вясновай паводкі захоўваецца на мяжы Віцебшчыны з Даўгаўпілскім і Краслаўскім раёнамі суседняй Латвіі. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве па надзвычайных становішчах і абароне ад наступстваў аварыі на ЧАЭС, па просьбе Віцебскай абласной камісіі па надзвычайных становішчах і работнікаў аналагічнай службы Латвіі адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў МНС і Мінабароны абедзвюх краін. Было канстатавана, што сітуацыя, калі затапляліся вуліцы і першыя паверхі дамоў у населеных пунктах, можа паўтарыцца: вялікія запасы снегу, таўшчыня лёду ў пойме Заходняй Дзвіны сёння асаблівага аптымізму не надаюць, выспы на рэках з абодвух бакоў служаць перашкодай крыгаходу, збіраючы лёд у пэўных месцах...

З мэтай прадухілення стыхійнага бедства выратавальнікі краін-суседак заключылі дамову аб каардынацыі дзеянняў. Такім чынам, сітуацыя знаходзіцца пад двухбаковым кантролем, а значыць падстаў для трывогі павінна быць як мінімум удвая менш.

**Таццяна СНІТКО.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 121

## АБ УСТАНАЎЛЕННІ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ АДНОСІНАЎ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І РЭСПУБЛІКАЙ ВЕНЕСУЭЛА

1. Устанавіць дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Венесуэла.

2. Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь прыняць неабходныя меры да афармлення ўстанаўлення дыпламатычных адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Венесуэла.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

27 сакавіка 1996 г., г.Мінск.

# ПАВЯЛІЧВАЦЬ АБ'ЁМЫ ЭКСПАРТУ ВЫГАДНА: ЗА ГЭТА ЎЗНАГАРОДЖВАЮЦЬ

Беларуская гандлёва-прамысловая палата падвяла вынікі штогадовага конкурсу «Лепшы экспарцёр года». Пераможцам у сваёй групе прадпрыемстваў названы мінскі завод «Крыон», які ўваходзіць у састаў канцэрна «Белхімнафтапром». Завод узнагароджаны крыштальным кубкам і памятным «жазлом Меркурыя».

За актыўны ўдзел у развіцці экспарту дыпломамі Гандлёва-прамысловай палаты ўзнагароджаны ВА «Беларуськалій» і гродзенскае ВА «Азот». Аб'яднанню «Беларуськалій» нядаўна прысуджана таксама прэстыжная міжнародная ўзнагарода «Брыльянтавая зорка якасці» за высокую якасць калійных угнаенняў, пастаўляемых на экспарт.

**Паліна КРЫЛОВА.**

## СПРАВАЗДАЧА АБ ПРЫБЫТКАХ І СТРАТАХ ЗА 1995 ГОД АКЦЫЯНЕРНАЙ СТРАХАВОЙ КАМПАНІІ «ПОЛІС»

| Прыбытак | млн. руб. | Страты (расходы) | млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Страхавыя ўзносы па прамому страхаванню | 810 | 1. Выплаты страхавога пакрыцця і страхавых сум | 154 |
| 2. Сродкі, прыцягнутыя з рэзерваў па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | - | 2. Расходы на вядзенне справы | 1122 |
| 3. Страхавыя ўзносы, атрыманыя ад перастраховачных аперацый | - | 3. Адлічэнні ў рэзервы па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | 652 |
| 4. Іншыя прыбыткі ад страхавой дзейнасці | 690 | 4. Аплачаныя страхавыя ўзносы па рызыках, перададзеных у перастрахаванне | - |
| 5. Прыбыткі ад пазарэалізацыйных аперацый | - | 5. Адлічэнні ў фонд папераджальных мерапрыемстваў | - |
| Усяго прыбыткаў | 1500 | 6. Іншыя расходы | 117 |
| 6. Страты | 545 | Усяго расходаў | 2045 |
| | | 7. Прыбытак | - |
| Усяго | 2045 | Усяго | 2045 |

## ГАДАВЫ БАЛАНС ЗА 1995 ГОД АКЦЫЯНЕРНАЙ СТРАХАВОЙ КАМПАНІІ «ПОЛІС»

| Актыў | млн. руб. | Пасіў | млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Разліковы рахунак | 91 | 1. Статутны фонд | 4,5 |
| 2. Валютны рахунак | - | 2. Рэзерв па маёмаснаму страхаванню і страхаванню ад няшчасных выпадкаў | 555 |
| 3. Рахункі ў банку па сродках рэзерваў плацяжоў | 92 | 3. Рэзерв па страхаванню жыцця, пенсій і накапляльных відах страхавання | 125 |
| 4. Каса | - | 4. Фонды і рэзервы спецыяльнага прызначэння | 220,5 |
| 5. Асноўныя сродкі і іншыя | 185 | 5. Сродкі ў разліках | 38 |
| 6. Дэбіторы | 2 | 6. Іншыя пасівы | - |
| 7. Страты справаздачнага года | 545 | | |
| 8. Іншыя актывы | 28 | | |
| Баланс | 943 | Баланс | 943 |

**Дакладнасць балансу пацверджана прыватным аўдытарам Зубаравай С. Ф., ліцэнзія № 385 ад 29.12.93 г.**

**28 лютага 1996 г.**

# Пажарнік Андрэй Клімаў — без газеты, але з дэпутацкім мандатам і банкам



***Андрэй Клімаў стаў вядомым грамадскасці пару гадоў назад — у тым ліку і дзякуючы газеце, што насіла яго імя. Зараз ён — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі.***

***У дэпутацкім кабінеце Клімава адразу кідаецца ў вочы каляровая карцінка жанчыны з аголенымі грудзямі, што вісіць ля стала. У кабінетах дзяржаўных асоб даводзілася бачыць розныя выявы — ад Карла Маркса да Аляксандра Лукашэнкі. Але ад такой шчырасці ў Доме ўрада напачатку ажно анямела. Справа, вядома ж, не ў ханжаскіх замашках журналіста — адольвала неўразуменне: што б гэта значыла? Стала хуценька пракручваць магчымыя варыянты — ад Дэлакруа з яго знакамітым бачаннем свабоды ў аблічча жанчыны з аголеным бюстам (за якой, трэба меркаваць, бяжыць чарада мужчын) да Веліміра Хлебнікава: «Свобода приходит нагая»... Аднак усё аказалася намнога прасцей. «Люблю жанчын», — з усмешкай патлумачыў Андрэй Яўгенавіч. Што ж, усё натуральна — калі ўлічыць, што дэпутату ўсяго 30 гадоў.***

***Выходзячы з Авальнай залы, спадар Клімаў эмацыянальна гаварыў калегам пра аднаго з выступоўцаў: «А ведаеце, колькі каштуе яго касцюм?» І лічбу называў проста ашаламляльную — некалькі тысяч долараў. Гэта, прынамсі, і абумовіла маё першае пытанне да дэпутата.***

**— Вы па адукацыі спецыяліст па тканінах?**

— Не, проста я хаджу ў магазіны, ведаю цэны... У мяне дзве адукацыі. Я скончыў Львоўскае пажарна-тэхнічнае вучылішча МУС СССР. Вучыўся на завочным аддзяленні юрфака, але часова спыніў вучобу.

**— Выгналі?**

— Не, я вучыўся на «выдатна».

**— Чаму ж тады?..**

— Па дзвюх прычынах: па-першае, заняўся бізнесам. А па-другое, была такая няпэўнасць у заканадаўстве — самі выкладчыкі гаварылі, што не могуць разабрацца...

**— І тады вырашылі: законы трэба пісаць самому?**

— Не, тады я вырашыў, што да юрыспрудэнцыі вярнуся пазней, у больш пэўнай сітуацыі.

**— Вы багаты чалавек?**

— Не. Паняцце «багацце» для мяне мае зусім іншы сэнс, чым для большасці. Лічыцца, што багаты чалавек — гэта той, хто траціць шмат грошай на сябе. А я ўсё, што зарабляю, трачу на вытворчасць.

**— І што вырабляеце?**

— Займаюся будаўнічым бізнесам. Я падрадчык, будую жылыя дамы — гэта асноўнае. Многа ўкладваю ў праекты, займаюся выпускам будаўнічых матэрыялаў, падключыўся да прыватызацыі радыятарнага завода, уклаў туды значную суму і г. д.

**— Хто вашы бацькі?**

— Бацька — інжынер, маці — інжынер-будаўнік... Спачатку ў мяне была мэта — быць кім заўгодна, толькі не будаўніком.

**— Як, з чаго пачынаўся ваш бізнес?**

— З юрыдычных паслуг па продажы кватэр — гэта 1991 — 1992 гады. Як толькі гэта перастала быць актуальным, змяніў профіль. Я бізнесмен чыстай вады.

**— Трымаеце руку на пульсе часу?**

— Правільна.

**— У вас вялікі дом?**

— У мяне кватэра. Вялікая, метраў пад сто.

**— Асабняк каля Мінска?**

— Будзе — толькі ў самім Мінску.

**— Машына якой маркі?**

— «Мерседэс».

**— Асабісты шафёр ёсць?**

— Вядома.

**— Колькі вы яму плаціце?**

— Сакрэт.

**— Вы можаце прадставіць дэкларацыю аб даходах?**

— Безумоўна.

**— Вы пэўны час выпускалі «Газету Андрея Климова» — відаць, цудоўна вывучылі Леніна: газета — найлепшы шлях прапаганды сваіх поглядаў і папулярызацыі сваёй асобы?**

— У мяне было «выдатна» па гісторыі КПСС: чытаў і стараўся асэнсаваць усе базавыя, фундаментальныя працы класікаў марксізму-ленінізму... А што тычыцца папулярнасці — ніколі не імкнуўся да гэтага!

**— Ну, сама назва — «Газета Андрея Климова»... Можна было назваць больш нейтральна?**

— Назва газеты — не рэклама. Гэта мой імідж, мой падыход да жыцця: я заўсёды нясу адказнасць за свае справы. Калі малое прадпрыемства — яно павінна насіць імя Андрэя Клімава: хто адказвае за яго, хто кіруе? Акцыянернае таварыства, калі ў мяне там 90 працэнтаў капіталу ці хаця б палова, — таксама Андрэя Клімава. Калі прыватны банк — то ўсе павінны ведаць, што ён належыць Андрэю Клімаву: чалавек мае на ўвазе, што гэта не нейкі невядомы ўладальнік, які збярэ грошы і збяжыць. Прытым у кліента ёсць упэўненасць — калі гэтым займаецца Андрэй Клімаў — значыць гэта надзейна!

Гэтак жа было і з газетай. Яна мела на мэце прапаганду новых эканамічных рэформаў, фарміраванне грамадскай думкі па-новаму.

**— Чаму спынілі выпуск газеты? Мэта дасягнута, сталі дэпутатам — «мавр сделал свое дело, мавр может удалиться»?..**

— Я не спыняў выпуск газеты, яе проста закрылі.

**— ???**

— Суды, неабгрунтаваныя іскі аб абароне гонару і годнасці на сумы ў мільярды рублёў. Я выплаціў больш як 100 мільёнаў рублёў, потым паглядзеў — у багажы ляжаць сумы на 200 тысяч долараў... Ведаў, што суды ўсё роўна прымуць адпаведныя рашэнні... Гэтая барацьба стала бессэнсоўнай: мяне проста маглі разарыць.

**— Гавораць, Сен-Сімона будзілі словамі: «Уставайце, граф, вас чакаюць вялікія справы!». З чаго звычайна пачынаецца ваша раніца?**

— З малітвы.

**— Якой?**

— Госпадзі, даруй мне ўсе мае грахі, бо ўсё, што ты мне даў сёння, — як адплата за ўсе папярэднія грахі.

**— У вас шмат грахоў?**

— Так.

**— Грэшны чалавек... Што для вас грэх?**

— Для мяне грэх — перш за ўсё самаўпэўненасць, залішняе самалюбства і грубасць у дачыненні да блізкіх і родных людзей, якія мяне любяць.

**— А што для вас святое?**

— Любоў да Радзімы, бацькоўскі доўг.

**— У вас сын або дачка?**

— І сын, і дачка. У мяне трое дзяцей ад двух шлюбаў. Малодшай дачцэ — год, старэйшай — 12.

**— Дзе вы пазнаёміліся з жонкай?**

— На тэнісным корце.

**— Тэніс — хобі?**

— Гэта ўжо даўно не хобі, а абавязковая спартыўная трэніроўка для падтрымання формы. Каб не растаўсцець і не расслабіцца. Акрамя тэніса — горныя лыжы.

**— Тыповы «джэнтльменскі набор»! Вы ігрок?**

— Не, наогул не люблю азартных гульняў.

**— Неазартны чалавек?**

— Я азартны чалавек, менавіта таму і не люблю азартных гульняў.

**— Парадокс!.. Нейкі прыклад сябе ў азарце можаце прывесці?**

— Я ў азарце за год пабудаваў трохпад'ездны 12-павярховы цагляны дом.

**— Што вамі рухала? Спрэчка?**

— Хацеў даказаць сабе, што магу гэта зрабіць.

**— Неяк у Дыягена спыталі, чаму ён не любіць людзей — ні дрэнных, ні добрых. «Дрэнных — за тое, што робяць зло, добрых — што дазваляюць гэта рабіць», — адказаў ён. Да якой з гэтых «дыягенаўскіх» катэгорый вы аднеслі б сябе?**

— Адказ Дыягена — гэта адказ ненармальнага чалавека. Я адношу сябе да катэгорыі нармальных людзей, якім уласціва і зло, і дабро... Калі я злосны — я злуюся, а калі добры...

**— Парады Карнегі не прызнаяце?**

— Наадварот, Карнегі шмат мне дапамог, ён вучыць валодаць сабой.

**— У вас ёсць ворагі?**

— Зразумела, як і ў любога чалавека. Мае ворагі — перш за ўсё зайздроснікі. Зайздросцяць маладосці і таму, што ў мяне ўсё атрымліваецца.

**— Але ж зайздрасць бывае і «белая»?**

— Гэта я назваў бы іншым словам — павага.

**— Вы партыйны чалавек?**

— Не, я не прымаю ніякіх партый.

**— Вы член фракцыі «Грамадзянскае дзеянне»...**

— Фракцыя і партыя — рэчы розныя. Як акцыянернае таварыства і дзяржаўная служба.

**— Вы сталі дэпутатам з другой спробы?**

— Так, і перавага была саліднай, дзесьці тысяча галасоў.

**— Нейкія нядобрыя чуткі хадзілі: маўляў, Клімаў многіх падкупіў...**

— Свае грошы ўкладаю толькі ў вытворчасць... А што да «падкупіў», то я вельмі добра ведаю цану нашым савецкім людзям, бо сам савецкі чалавек. Аксіёма: чым болей грошай даеш, тым болей цябе ненавідзяць. Колькі б мне ні прапаноўвалі самі выбаршчыкі: «Вы заплаціце — мы прагаласуем», мой прынцып: нікому — ні капейкі.

**— А колькі заплацілі артыстам за тое, што яны наладжвалі канцэрты ў вашу падтрымку?**

— Я ім нічога не плаціў.

**— Яны на грамадскіх пачатках працавалі?**

— У нас даўнія сяброўскія адносіны з Аляксандрам Ціхановічам. Я калісьці дапамог... Ёсць рэчы, якія для мяне нічога не каштуюць, не грошы, не, — аказаць паслугу, закінуць слова, а сябрам гэта дапамагло. І калі я звярнуўся да іх, яны з радасцю адгукнуліся. Аляксандр Ціхановіч сказаў: «Андрэй, нават калі б ты прапаноўваў грошы, я б адмовіўся, бо лічу, што менавіта такія людзі, як ты, павінны быць у парламенце: яны дапамогуць артыстам зарабляць грошы і не прыніжацца ў гэтых умовах».

**— Беднасць — не загана?**

— Гэта няшчасце, якое можа напаткаць чалавека па прычыне фізічнага нездароўя або маральнага.

**— Урачы, настаўнікі, работнікі культуры не проста бедныя — яны жабракі.**

— Зараз усе жабракі. І я думаю: а наогул, працягваць бізнес у рэспубліцы ці не? А ўсё таму, што ў нас манархія, што ў нас парушаюцца правы грамадзян на працу, на вызначэнне роду сваіх заняткаў. У адрозненне ад папулістаў, у мяне ёсць канкрэтныя прапановы па змяненню заканадаўства, што дасць магчымасць людзям зарабляць, бо чалавек, які мае работу, не можа, не павінен быць бедным. ...А гаворачы пра катэгорыю людзей, якіх вы маеце на ўвазе, — гэта людзі на дзяржслужбе. Гэта вельмі дрэнна, што ў нас зараз існуюць умовы, пры якіх нельга адкрыць прыватныя клінікі, школы.

**— Ваша дачка вучыцца ў прыватнай школе?**

— Не, у дзяржгімназіі.

**— А чаму не ў прыватнай?**

— Я не прымаю прыватнай адукацыі. Не тое што прыватнай, а элітнай адукацыі для сваіх дзяцей. Я скончыў самую дрэнную школу г. Мінска, 61-ю — сёння гэта адна з лепшых школ. А тады была самай горшай: крымінальныя злачынствы, раннія шлюбы і г. д.

**— Колькі моў вы ведаеце?**

— Тры. Не, нават чатыры: беларускую, рускую, англійскую і «мацерную».

**— Дзе навучыліся апошняй?**

— У школе, вядома.

**— Ці часта карыстаецеся нецэнзуршчынай?**

— Толькі на будоўлі, калі бачу брак.

**— Вярхоўны Савет істотна адрозніваецца ад будоўлі?**

— Зразумела... Хаця часам таксама хочацца вылаяцца.

**— Пра вас гавораць як пра адпрасаванага, дагледжанага чалавека. Вы лічыце гэта кампліментам?**

— Не. Мне было б прыемна, калі б мяне называлі будаўніком ці пажарнікам: грубы, некультурны, але дакладна ведае, што яму рабіць. Як на пажары...

**— Вы маглі б пажар ліквідаваць?**

— Я працаваў начальнікам каравула пажарнай часці г. Мінска — амаль два гады, і не было ніводнага пажару, які б я не патушыў.

**— Самае моцнае ўражанне дзяцінства?**

— Крэмль, Чырвоная Плошча і ананас — у дзіцячым садку аднойчы паспытаў.

**— Вы не баіцеся, што камуністы зноў прыйдуць да ўлады?**

— Я баюся прыходу да ўлады варвараў.

**— Я гаварыла не пра варвараў, а пра камуністаў...**

— Гэта адно і тое ж!.. Але, думаю, у бліжэйшыя сто гадоў камуністы не прыйдуць да ўлады.

**— Калі б вам дазволілі надрукаваць уласную грашовую адзінку — як бы яна называлася і што б на ёй было адлюстравана?**

— Мне было б дастаткова, каб яна называлася «рубель» і была эквівалентная (адзін да аднаго) долару. Мяне б цалкам задаволілі тыя выявы, якія былі ў маім дзяцінстве, — Ленін, Крэмль.

**— Чалавек парадаксальны!.. Толькі што вы гаварылі, што камуністы — варвары, разбуральнікі, і раптам — Ленін?**

— Я ўвесь час жыў з гэтымі грашовымі адзінкамі і не хачу, каб на іх была выява Лінкольна.

**— А Лукашэнкі?**

— Лукашэнка — праціўнік бізнесу...

**— Вы можаце добра выпіць?**

— Я кінуў піць: у мяне шмат работы, не магу расслабіцца ні на хвіліну. У нецвярозым стане адпачыць нельга.

**— На Новы год бакал шампанскага дазволілі сабе?**

— Так, але гэта было апошні раз.

**— У вас ёсць хатняя работніца?**

— Не.

**— А хто купляе прадукты?**

— Я. Карыстаюся ў асноўным кругласутачным супермаркетам, бо магу толькі ў позні час дазволіць сабе зайсці ў краму. Я люблю рабіць пакупкі, люблю на гадзіну зайсці ў супермаркет, накупіць на тыдзень прадуктаў.

**— Што для вас сёння самае дэфіцытнае?**

— Не зусім разумею...

**— Ну вядома, хіба бізнесмен Клімаў можа ведаць, што такое дэфіцыт!**

— Для мяне няма дэфіцыту. Калі я штосьці хачу, то павінен зарабіць. Я ведаю, як зарабіць.

**— Хто вас разумее лепш за іншых?**

— Жонка.

**— Ваша жонка не раўнуе? Усё-такі малады багаты мужчына, дэпутат...**

— Вельмі раўнуе.

**— Наладжвае «сцэны»?**

— Вядомая рэч... Тады злуюся, што яна псуе мне вольны час.

**— Вы часта дорыце жонцы кветкі?**

— Не. У вольны час я думаю аб справах і...

**— ...і аб іншых жанчынах?**

— Гэта сакрэт!

**— Дома жонка кіруе вамі?**

— Жанчына ніколі не будзе мной кіраваць!

**— Якія жанчыны вам падабаюцца?**

— Прыгожыя, маладыя, стройныя.

**— У вас ёсць жыццёвы дэвіз?**

— Хутчэй, жыццёвае крэда: не быць дурнем і ніколі не служыць дурням.

**— Вам удаецца?**

— Я імкнуся да гэтага.

**— За які ўчынак у сваім жыцці вам сорамна?**

— Не скажу.

**— У вас ёсць ідэалы?**

— Ужо няма.

**— Ну, вы проста страшны чалавек... Чалавек-машына!**

— Правільна.

**— Гэта для вас не знявага?**

— Не, так яно і ёсць.

**— Чалавек-машына — так Леў Талстой характарызаваў мужа Ганны Карэнінай.**

— Я хутчэй падобны на сябра Абломава, прадпрымальніка Штольца.

**— Любіце быць у цэнтры ўвагі?**

— Я люблю быць у цэнтры справы.

**— Які для вас самы непрыемны занятак?**

— Чакаць.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

А. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 19 снежня 1991 года «Аб падатку на дабаўленую вартасць» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №3, арт. 51, №12, арт. 206; 1993 г., №3, арт. 27; 1994г., №3, арт. 24; 1995 г., №6, арт. 57, №17, арт. 189) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Артыкул 1 выкласці ў новай рэдакцыі:

«Артыкул 1. Плацельшчыкі падатку

Плацельшчыкамі падатку на дабаўленую вартасць з'яўляюцца юрыдычныя асобы, уключаючы прадпрыемствы з замежнымі інвестыцыямі і замежныя юрыдычныя асобы, філіялы, прадстаўніцтвы і іншыя структурныя падраздзяленні юрыдычных асоб, якія маюць адасоблены (асобны) баланс і разліковы (бягучы) рахунак, удзельнікі дагавора аб сумеснай дзейнасці, якім даручана вядзенне агульных спраў або атрымаўшыя выручку ад гэтай дзейнасці да яе размеркавання, і фізічныя асобы.

Удзельнікі дагавора аб сумеснай дзейнасці, якім даручана вядзенне разлікаў з бюджэтам і пазабюджэтнымі фондамі ў сувязі з ажыццяўленнем сумеснай дзейнасці, абавязаны прайсці спецыяльную рэгістрацыю ў дзяржаўнай падатковай інспекцыі па месцы знаходжання і прадстаўляць у дзяржаўную падатковую інспекцыю асобны разлік падатку на дабаўленую вартасць па гэтай дзейнасці.

Ільготы, прадугледжаныя гэтым Законам, пры вылічэнні падатку на дабаўленую вартасць па сумеснай дзейнасці не прадастаўляюцца».

2. У артыкуле 2:

частку першую дапоўніць словамі «а таксама кошт увозімых на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь тавараў»;

у частцы другой:

пункт 1 пасля слоў «юрыдычнымі асобамі» дапоўніць словамі «або прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы»;

дапоўніць частку пунктам 5 наступнага зместу:

«5) мытны кошт тавараў, якія ўвозяцца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь у мытных рэжымах свабоднага абарачэння, зваротнага ўвозу ў змененым стане і ўвозу для спажывання нерэзідэнтамі (калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі (пагадненнямі))».

3. У артыкуле 3:

частку другую выкласці ў новай рэдакцыі:

«У абкладаемы абарот таксама ўключаюцца сумы грашовых сродкаў і іншых актываў, якія атрымліваюцца прадпрыемствамі ў выглядзе фінансавай дапамогі (акрамя сродкаў, што паступаюць са ствараемых у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь фондаў і бюджэту), папаўнення фондаў спецыяльнага прызначэння або накіроўваюцца ў лік павелічэння прыбытку, сумы перавышэння атрыманых над выплачанымі пені, няўстоек і сумы іншых даходаў ад пазарэалізацыйных аперацый»;

частку шостую пасля слоў «льгатуемай прадукцыі (работ, паслуг)» дапоўніць словамі «і адсутнасці раздзельнага ўліку затрат»;

частку сёмую пасля слоў «асноўных фондаў» дапоўніць словамі «і знос нематэрыяльных актываў»;

часткі пятнаццатую і семнаццатую выключыць;

частку шаснаццатую дапоўніць словамі «ад даходаў, атрыманых ад страхавой дзейнасці» і лічыць яе часткай пятнаццатай;

дапоўніць артыкул часткамі шаснаццатай, семнаццатай, васемнаццатай, дзевятнаццатай, дваццатай, дваццаць першай, дваццаць другой, дваццаць трэцяй, дваццаць чацвёртай, дваццаць пятай і дваццаць шостай наступнага зместу:

«Абкладаемы абарот для вылічэння і выплаты падатку пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь вызначаецца заходзячы з іх мытнага кошту, да якога дабаўляецца мытная пошліна, а па падакцызных таварах — таксама і сума акцызу.

Мытны кошт тавару вызначаецца ў адпаведнасці з мытным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Тавары, якія паходзяць і ўвозяцца з тэрыторый дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падаткам на дабаўленую вартасць пры ўвозе іх на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь не абкладаюцца.

Падатак на дабаўленую вартасць па ўвозімых на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь таварах выплачваецца іх імпарцёрам.

Пад імпарцёрам для мэт падаткаабкладання трэба разумець рэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь і фізічных асоб — нерэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь (пры заяве апошнімі мытных рэжымаў, звязаных з пастаянным і незваротным размяшчэннем увозімых тавараў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь), якія ўвозяць рэчы на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь.

Да рэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь адносяцца:

а) фізічныя асобы, якія маюць пастаяннае месцажыхарства ў Рэспубліцы Беларусь, у тым ліку якія часова знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь;

б) юрыдычныя асобы з месцазнаходжаннем у Рэспубліцы Беларусь, створаныя ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, у тым ліку юрыдычныя асобы з інвестыцыямі нерэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь;

в) прадпрыемствы і арганізацыі, якія не з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі, з месцазнаходжаннем у Рэспубліцы Беларусь, створаныя ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

г) дыпламатычныя і іншыя афіцыйныя прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь, што знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь;

д) прадстаўніцтвы рэзідэнтаў, указаных у падпунктах «б» і «в» гэтага пункта, што знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь.

Да нерэзідэнтаў — фізічных асоб адносяцца фізічныя асобы, якія маюць пастаяннае месцажыхарства за межамі Рэспублікі Беларусь, у тым ліку якія часова знаходзяцца ў Рэспубліцы Беларусь.

Пры наступнай рэалізацыі імпарцёрам тавараў (акрамя льгатуемых), увезеных на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, абкладаемы абарот вызначаецца зыходзячы з дабаўленай вартасці.

Сумы падатку на дабаўленую вартасць, выплачаныя пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, улічваюцца пры вызначэнні плацельшчыкам сумы падатку на дабаўленую вартасць, якая падлягае выплаце ў справаздачным перыядзе.

Сумы падатку на дабаўленую вартасць, выплачаныя пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь асноўных вытворчых фондаў, па заяве плацельшчыкаў падлягаюць пакрыццю з рэспубліканскага бюджэту на працягу аднаго месяца з моманту іх уводу ў эксплуатацыю. У выпадку рэалізацыі, ліквідацыі, здачы ў арэнду (іншае карыстанне за плату) увезеных асноўных вытворчых фондаў на працягу аднаго года з моманту іх уводу ў эксплуатацыю на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, па якіх быў пакрыты падатак на дабаўленую вартасць, сума падатку спаганяецца ў бюджэт з налічэннем пені з моманту ўвозу гэтых фондаў у Рэспубліку Беларусь у памеры, устаноўленым Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь».

Сумы падатку на дабаўленую вартасць, выплачаныя таваравытворцамі пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, камплектуючых вырабаў, паліўных рэсурсаў, разглядаюцца як авансавыя плацяжы і залічваюцца пры вызначэнні сум падатку на дабаўленую вартасць, што падлягаюць выплаце пры рэалізацыі прадукцыі і тавараў, выробленых з імпартаваных сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, камплектуючых вырабаў і паліўных рэсурсаў».

4. У артыкуле 4:

у частцы першай:

падпункт «а» дапоўніць словамі «па рэалізацыі выробленых суб'ектамі гаспадарання харчовых тавараў па пераліку, зацверджанаму Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь»;

у падпункце «б» слова «харчовыя» выключыць;

дапоўніць артыкул пасля часткі першай часткай наступнага зместу:

«Тавары пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь абкладаюцца падаткам па стаўцы:

а) 10 працэнтаў — па харчовых таварах і таварах для дзяцей па пераліках, якія зацвярджаюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

б) 20 працэнтаў — па ўсіх астатніх таварах, уключаючы падакцызныя»;

часткі другую і трэцюю лічыць адпаведна часткамі трэцяй і чацвёртай;

частку трэцюю выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Тавары, якія рэалізуюцца за межы Рэспублікі Беларусь, акрамя дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падаткам на дабаўленую вартасць не абкладаюцца. Гэта палажэнне Закона не распаўсюджваецца на рэалізацыю тавараў у парадку тавараабменных (бартэрных) аперацый».

5. У артыкуле 5:

у частцы першай:

пункт 18 выкласці ў новай рэдакцыі:

«18) тэатральныя, цыркавыя прадстаўленні, канцэрты ў памяшканнях, дзе колькасць месцаў не перавышае дзвюх тысяч, а таксама спартыўныя мерапрыемствы, музеі і дзіцячыя атракцыёны»;

пункт 25 выкласці ў новай рэдакцыі:

«25) работы па будаўніцтву і рамонту аб'ектаў жылога фонду»;

пункт 29 дапоўніць словамі «і іх рэалізацыя ў аптовай і аптэчнай сетцы»;

пункт 30 выкласці ў новай рэдакцыі:

«30) работы і паслугі, звязаныя з будаўніцтвам і рэканструкцыяй за кошт добраахвотных ахвяраванняў аб'ектаў рэлігійнага культу рэлігійных канфесій, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць у адпаведнасці з заканадаўствам»;

пункт 31 выключыць;

пункт 33 выкласці ў новай рэдакцыі:

«33) рэалізацыя навукова-даследчых, вопытна-канструктарскіх і вопытна-тэхналагічных работ, якія выконваюцца для спажыўцоў Рэспублікі Беларусь і зарэгістраваны ў дзяржаўным рэестры ў парадку, што вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь»;

пункт 34 пасля слова «музычных» дапоўніць словамі «і спартыўных»;

пункт 42 выключыць;

дапоўніць частку пунктамі 44, 45, 46 і 47 наступнага зместу:

«44) рэалізацыя рэлігійнымі аб'яднаннямі прадметаў рэлігійнага прызначэння, спраўляння рэлігійных абрадаў;

45) даходы, атрыманыя па аперацыях з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі, акрамя даходаў ад іх рэалізацыі па цэнах, якія перавышаюць намінальны кошт, павялічаны на суму працэнтнай стаўкі, устаноўленую пры іх выпуску.

Дзяржаўныя каштоўныя паперы — каштоўныя паперы, якія эмітуюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь, у якасці дзяржаўных даўгавых абавязацельстваў.

Да аперацый з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі адносяцца аперацыі па куплі-продажу дзяржаўных каштоўных папер (за выключэннем брокерскіх і іншых пасрэдніцкіх паслуг), а таксама аперацыі, звязаныя з іх пагашэннем эмітэнтам у форме, устаноўленай заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

46) пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь:

а) валюта Рэспублікі Беларусь, замежная валюта, банкноты, якія з'яўляюцца законнымі сродкамі плацяжу (акрамя выкарыстоўваемых у мэтах нумізматыкі), а таксама каштоўныя паперы (акцыі, аблігацыі, вэксалі і інш.);

б) тавары, якія ўвозяцца ў якасці бязвыплатнай дапамогі і (або) на дабрачынныя мэты ў парадку, што вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

в) тэхнічныя сродкі, уключаючы аўтамататранспарт, якія не могуць быць выкарыстаны інакш, як для прафілактыкі інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў, лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння, пратэзна-артапедычныя вырабы і медыцынская тэхніка, а таксама сыравіна і камплектуючыя вырабы для іх вытворчасці;

г) канфіскаваныя, безгаспадарчыя каштоўнасці, а таксама каштоўнасці, якія перайшлі па праву на спадчыну дзяржаве; абсталяванне і прыборы, што выкарыстоўваюцца для навукова-даследчых мэт; тэхналагічнае абсталяванне і запасныя часткі да яго; транспарт агульнага карыстання і запасныя часткі да яго; спецыяльныя транспартныя сродкі для патрэб медыцынскай хуткай дапамогі, пажарнай аховы, органаў унутраных спраў;

д) маёмасць, якая ўвозіцца замежнымі ўдзельнікамі для фарміравання статутнага фонду прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі.

У выпадку рэалізацыі ў нязменным стане маёмасці, увезенай замежным удзельнікам у якасці ўкладу ў статутны фонд прадпрыемства з замежнымі інвестыцыямі, падатак выплачваецца заходзячы з мытнага кошту, заяўленага пры ўвозе гэтай маёмасці з улікам мытнай пошліны. Разлік плацяжоў праводзіцца з прымяненнем курса Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, які дзейнічаў на дату складання новай грузавой мытнай дэкларацыі, а ў выпадку яе адсутнасці — на дату рэалізацыі. Указаная льгота не прымяняецца ў адносінах да падакцызных тавараў;

е) камплектуючыя для выпуску аўтамабіляў, аўтобусаў, трактароў, самаходных спецыяльных машын і сельскагаспадарчай тэхнікі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь юрыдычнымі асобамі, вытворчасць якіх сертыфікавана ў гэтых мэтах;

47) дзейнасць лячэбна-вытворчых майстэрняў, псіханеўралагічных, псіхіятрычных, процітуберкулёзных бальніц і дыспансераў па медыцынскай і вытворчай рэабілітацыі»;

частку другую выключыць;

часткі трэцюю, чацвёртую і пятую лічыць адпаведна часткамі другой, трэцяй і чацвёртай;

частку другую выкласці ў новай рэдакцыі:

«Пры рэалізацыі тавараў за межы Рэспублікі Беларусь, па якіх у адпаведнасці з гэтым артыкулам не бярэцца падатак на дабаўленую вартасць, сума падатку, якая падлягае выплаце ў бюджэт, вызначаецца зыходзячы з дабаўленай вартасці».

6. Артыкул 7 выкласці ў новай рэдакцыі:

«Артыкул 7. Асаблівасці падаткаабкладання прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы

Прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, выплачваюць падатак на дабаўленую вартасць толькі па абаротах па аказанню фінансавых паслуг, аперацыях з каштоўнымі паперамі і нерухомасцю.

Падатак вылічваецца і ўносіцца ў бюджэт штомесячна, калі сума падатку за мінулы месяц складае звыш 250 мінімальных заработных плат. У астатніх выпадках падатак вылічваецца і ўносіцца ў бюджэт адзін раз у квартал.

Пры нязначных сумах падатку на дабаўленую вартасць дзяржаўныя падатковыя інспекцыі са згоды мясцовых фінансавых органаў могуць устанаўліваць іншыя тэрміны выплаты падатку на дабаўленую вартасць па асобных відах дзейнасці».

Б. Устанавіць асаблівасці падаткаабкладання на 1996 год:

1. Прадпрыемствы папраўча-працоўных устаноў і лячэбна-працоўных прафілакторыяў сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь вызваляюцца ад выплаты падатку на дабаўленую вартасць.

2. Выдавецкая дзейнасць па выпуску вучэбнай і метадычнай літаратуры для агульнаадукацыйных школ, ПТУ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, дапушчанай у якасці такой літаратуры Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, вызваляецца ад абкладання падаткам на дабаўленую вартасць.

В. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА**

*26 сакавіка 1996 г., г. Мінск.*
*№ 184-XIII*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на нерухомасць»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

А. Унесці змяненні і дапаўненні ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1991 года «Аб падатку на нерухомасць» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №3, арт. 59, №12, арт. 206; 1993 г., №3, арт. 27; 1994 г., №3, арт. 24, №17, арт. 279; 1995 г., №6, арт. 57):

1. У артыкуле 1:

частку першую выкласці ў новай рэдакцыі:

«Плацельшчыкамі падатку на нерухомасць з'яўляюцца юрыдычныя асобы, уключаючы прадпрыемствы з замежнымі інвестыцыямі і замежныя юрыдычныя асобы, а таксама філіялы, прадстаўніцтвы і іншыя структурныя падраздзяленні юрыдычных асоб, якія маюць адасоблены (асобны) баланс і разліковы (бягучы) рахунак, а таксама фізічныя асобы.

Плацельшчыкам падатку на нерухомасць юрыдычных асоб, маёмасць якіх належыць поўнасцю на праве ўласнасці адной асобе, можа выступаць па ініцыятыве ўласніка або ўпаўнаважанага ім органа любая з дадзеных асоб у парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь»;

частку другую лічыць часткай трэцяй.

2. У артыкуле 3:

частку другую пункта 1 выкласці ў новай рэдакцыі:

«Гадавая стаўка падатку на нерухомасць з кошту жылых будынкаў, надворных пабудоў, гаражоў, якія належаць фізічным асобам, будынкаў, якія належаць гаражна-будаўнічым кааператывам, садаводчым таварыствам, створаным за кошт асабістых узносаў грамадзян, а таксама будынкаў, якія выкарыстоўваюцца прадпрымальнікамі без утварэння юрыдычнай асобы для ажыццяўлення сваёй дзейнасці, устанаўліваецца ў памеры 0,1 працэнта»;

пункт 3 выключыць.

3. У артыкуле 4:

у пункце 1:

у абзацы восьмым словы «сумесна пражываючых працаздольных членаў сям'і; будынкі» замяніць словамі «працаздольных асоб, якія сумесна пражываюць або лічацца згодна з данымі пагаспадарчага ўліку або дамавых кніг, не маюць крыніц даходу, што абкладаюцца падаходным падаткам падатковымі органамі; жылыя дамы з надворнымі пабудовамі»;

дапоўніць пункт абзацамі наступнага зместу:

«уведзеныя ў дзеянне будынкі і збудаванні юрыдычных асоб на працягу аднага года з моманту ўводу ўказаных фондаў у эксплуатацыю;

аб'екты гарадскога добраўпарадкавання, якія ўтрымліваюцца за кошт сродкаў бюджэту Рэспублікі Беларусь»;

пункт 3 выкласці ў новай рэдакцыі:

«3. Не абкладаецца падаткам кошт незавершанага будаўніцтва па будаўнічых аб'ектах і будоўлях, якія фінансуюцца з бюджэту, а таксама жыллёвага будаўніцтва».

4. У артыкуле 5:

у пункце 1:

словы «страхавой ацэнкі» замяніць словамі «ацэнкі аб'ектаў, парадак якой вызначае Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь» і слова «будынкаў» замяніць словамі «жылых дамоў і надворных пабудоў, а таксама аб'ектаў, якія выкарыстоўваюцца для заняцця грамадзян прадпрымальніцкай дзейнасцю»;

дапоўніць пункт часткай наступнага зместу:

«Для вылічэння падатку садаводчым таварыствам, гаражна-будаўнічым кааператывам гэтыя арганізацыі абавязаны прадстаўляць у дзяржаўную падатковую інспекцыю па месцы знаходжання звесткі аб ацэнцы збудаванняў, якія знаходзяцца ў іх уладанні, карыстанні, а таксама збудаванняў, якія належаць членам гэтых арганізацый, да 1 мая»;

пункт 4 выкласці ў новай рэдакцыі:

«4. Вылічэнне падатку на незавершанае будаўніцтва пачынаецца па сканчэнні тэрміну будаўніцтва, вызначанага ў адпаведнасці з будаўнічымі нормамі і правіламі. Падатак у частцы выкананага аб'ёму работ па аб'ектах незавершанага будаўніцтва ўносіцца заказчыкам за кошт прыбытку, які застаецца ў яго распараджэнні. Сума падатку вызначаецца зыходзячы з кошту незавершанага будаўніцтва на пачатак справаздачнага квартала і 1/4 зацверджанай гадавой стаўкі»;

у пункце 6 слова «падаткаў» замяніць словам «падатку».

Б. Даручыць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь распрацаваць парадак ацэнкі будынкаў і збудаванняў, якія належаць фізічным асобам, і ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

В. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА**

*26 сакавіка 1996 г., г. Мінск.,*
*№ 183-XIII*

*У КАМІСІЯХ ВС*

# СПРЭЧКІ НА ТЭМУ «ШТО БУДУЕМ?» ПРАЦЯГВАЮЦЦА...

**Камісія Вярхоўнага Савета па бюджэту, падатках, банках, фінансах абмяркоўвае, якім павінна быць падаткаабкладанне на бліжэйшую і больш аддаленую перспектыву**

Увогуле, камісія з удзелам кіраўнікоў міністэрстваў эканомікі і фінансаў, а таксама Галоўнага ўпраўлення падатковай інспекцыі сабралася на сваё пасяджэнне з тым, каб разгледзець праект падатковага кодэкса рэспублікі, на якім у далейшым павінна базіравацца ўся падатковая і бюджэтная палітыка. Адпаведна, камісія мае на ўвазе ўжо загадзя залажыць асноўныя прынцыпы падаткаабкладання на 1997 год, сфарміраваць бюджэт на гэты год. Такая аператыўнасць, з улікам сумнага вопыту фарміравання бюджэту на сёлетні год, вядома ж, пахвальная. І тым больш не выклікае сумненняў важнасць распрацоўкі канцэптуальнага ў гэтых адносінах дакумента — Падатковага кодэкса, прыняцце якога азначала б у далейшым пэўную ўстойлівасць і пераемнасць падатковай палітыкі (суб'екты гаспадарання часам наракаюць не столькі на цяжар падаткаў, колькі на частыя змены ў падатковым заканадаўстве, яго заблытанасць, непрадказальнасць падатковай палітыкі ўвогуле.

Між іншым, падчас пасяджэння з вуснаў кіраўніка Галоўнага ўпраўлення падатковай інспекцыі прагучала характэрнае прызнанне, што, маўляў, нават самі падатковыя інспектары блытаюцца...). Але вось закавыка: сам Падатковы кодэкс, як цалкам абгрунтавана падкрэслівалі многія, павінен базіравацца на пэўнай мадэлі эканамічнага развіцця, развіцця грамадства ўвогуле. Дакладнага ж адказу на пытанне «што мы будуем?» няма і сёння.

Думка адносна таго, што доўгатэрміновую падатковую палітыку трэба закладваць менавіта з улікам усіх працэсаў у эканоміцы і грамадстве, так ці інакш гучала ва ўсіх выступленнях. Нявызначанасць, недакладнасць гэтых працэсаў відавочная. Няйначай з-за гэтага многія з удзельнікаў пасяджэння былі яўна настроены на тое, каб не спяшацца з Падатковым кодэксам, хоць, дарэчы, праект яго ўжо падрыхтаваны Міністэрствам эканомікі.

Яшчэ адзін момант: як улічваць у далейшай падаткова-бюджэтнай палітыцы тыя наступствы, якія могуць вынікаць з пагаднення з Расіяй? Вядома, у тым разе, калі яно будзе ратыфікавана.

Калі падатковы кодэкс — дакумент доўгатэрміновага дзеяння, больш агульнага прызначэння, і з яго прыняццем можна не спяшацца (пры гэтым таксама гаварылася пра неабходнасць папярэдняй грунтоўнай распрацоўкі прававой базы пад кодэкс — законаў аб уласнасці, аб прадпрыемствах і г. д., неабходнасці першачарговай падрыхтоўкі больш вызначальнага для іншых прававых актаў — Грамадзянскага кодэкса), то прыкідкі бюджэту і падаткаабкладання на новы, 1997 год трэба рабіць ужо цяпер, на чым, увогуле, і прапаноўвалася спыніцца найперш. Пры гэтым прагучала ўжо добра знаёмае наконт неабходнасці змяншэння агульнай колькасці падаткаў, а таксама колькасці пазабюджэтных збораў — з пераводам іх у бюджэтныя, аднолькавай адказнасці ўсіх перад падатковым заканадаўствам і г. д. Надзвычай слушныя прапановы, але колькі ўжо яны гучаць... Кіраўнік Галоўнага ўпраўлення падатковай інспекцыі М. Дзямчук настойваў на тым, каб ужо з наступнага года распачаць абавязковае дэклараванне грамадзянамі сваіх даходаў.

А ў заключэнне яшчэ раз вернемся да вышэйзгаданага пытання «што будуем?». На ім спатыкаюцца самі ж заканадаўцы, не кажучы ўжо пра многіх іншых. На ім, па сутнасці, спатыкаецца ўся наша эканоміка; з-за адсутнасці дакладнага адказу на яго не ідзе на спад крызіс. Хоць даўно чуецца ўжо: трэба арыентавацца на жорсткую мадэль ліберальна-рыначнага развіцця, пераўтварэнне ўласнасці з перакладваннем усёй адказнасці за канчатковыя вынікі дзейнасці на суб'ектаў гаспадарання, трэба адмаўляцца ад нашай залішняй «сацыялізаванасці». Без гэтага не выратуе і тая ж падатковая палітыка, на якую часам ускладаюць надзеі як на панацэю — маўляў, галоўнае — знайсці правільныя падаткі... Тое ж удасканальванне яе звядзецца ў рэшце рэшт да касметычных мераў.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## СПРАВАЗДАЧА

**аб прыбытках і стратах на 1995 г. страхавой кампаніі «АМЕТА-ЛТД», *г. Мінск, вул. Кірава, 13***

*тыс. руб.*

| ПРЫБЫТАК | СТРАТЫ (РАСХОДЫ) |
|---|---|
| 1. Страхавыя ўзносы па прамому страхаванню ........ 854,5 | 1. Выплаты страхавога пакрыцця і страхавых сум ........ 224,7 |
| 2. Сродкі, прыцягнутыя з рэзерваў па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання ........ - | 2. Расходы на вядзенне справы ........ 604,3 |
| 3. Страхавыя ўзносы, атрыманыя ад перастраховачных аперацый ........ 7,5 | 3. Адлічэнні ў рэзервы па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання ........ 589,1 |
| 4. Іншыя даходы ад страхавой дзейнасці .. 167,9 | 4. Аплачаныя страхавыя ўзносы па рызыках, перададзеных у перастрахаванне ........ 318,7 |
| 5. Даходы ад пазарэалізацыйных аперацый ........ 728,1 | 5. Адлічэнні ў фонд папераджальных мерапрыемстваў ........ - |
| Усяго даходаў ........ 1758,0 | 6. Іншыя расходы ........ 25,6 |
| 6. Страты ........ 4,4 | Усяго расходаў ........ 1762,4 |
| | 7. Прыбыткі ........ - |
| Усяго: ........ 1762,4 | Усяго: ........ 1762,4 |

## ГАДАВЫ БАЛАНС ЗА 1995 г.

**страхавой кампаніі «АМЕТА-ЛТД», *г. Мінск, вул. Кірава, 13***

*тыс. руб.*

| АКТЫЎ | ПАСІЎ |
|---|---|
| 1. Разліковы рахунак ........ 38,1 | 1. Статутны капітал ........ 0,4 |
| 2. Валютны рахунак ........ 0,1 | 2. Рэзерв па маёмаснаму страхаванню і страхаванню ад няшчасных выпадкаў .... 698,6 |
| 3. Рахункі ў банку па сродках рэзерваў плацяжоў (кароткатэрміновыя фінансавыя ўкладанні) ........ 866,9 | 3. Рэзерв па страхаванню жыцця, пенсій і медыцынскаму страхаванню ........ 123,4 |
| 4. Каса ........ 0,1 | 4. Фонды і рэзервы спецыяльнага прызначэння ........ 114,5 |
| 5. Асноўныя сродкі і іншыя доўгатэрміновыя актывы ........ 162,5 | 5. Сродкі ў разліках ........ 143,6 |
| 6. Дэбіторы ........ 23,0 | 6. Іншыя пасівы ........ 13,4 |
| 7. Іншыя актывы ........ 3,2 | Баланс ........ 1093,9 |
| Баланс ........ 1093,9 | |

**Дакладнасць балансу пацверджана незалежнай аўдытарскай фірмай «Інфармацыйна-аналітычны цэнтр» 12.03.96 г.**

# ГІСТОРЫЯ РАССТАВІЦЬ УСЁ ПА СВАІХ МЕСЦАХ

**Такую выснову зрабілі удзельнікі «круглага стала» ў грамадскім прэс-цэнтры Беларускага Дома друку, які адбыўся 5 красавіка па тэме: «Беларусь—Расія. Перспектывы развіцця палітычных адносінаў».**

У «круглым стале» прынялі ўдзел дэпутаты Вярхоўнага Савета Мікалай Бекіш (фракцыя аграрыяў), Анатоль Красуцкі (фракцыя «Згода»), Станіслаў Багданкевіч і Аляксандр Дабравольскі (фракцыя «Грамадзянскае дзеянне»). Размова ў асноўным вялася вакол падпісанага 2 красавіка беларуска-расійскага Дагавора аб стварэнні Супольніцтва. Прычым адразу стала зразумела, што адносіны да гэтага дагавора ў дэпутатаў розныя: прадстаўнікі аграрыяў і «Згоды» горача падтрымлівалі дагавор і выказвалі ўпэўненасць, што ён будзе ратыфікаваны, а лідэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі паставіліся да яго крытычна. Цікава, што пры гэтым дэпутаты не мелі на руках самога тэксту дагавора, а карысталіся пераважна інфармацыяй з СМІ.

Менавіта з гэтай нагоды выказаў сваё здзіўленне Аляксандр Дабравольскі, які зазначыў, што гэта вельмі важны дакумент і ён павінен быць тэрмінова прадстаўлены дэпутатам Вярхоўнага Савета. У цэлым на «круглым стале» больш гаварылі прадстаўнікі Грамадзянскай партыі, а Анатоль Красуцкі і Мікалай Бекіш у асноўным падтрымлівалі падпісаны дагавор і развіццё інтэграцыі з Расіяй тымі ж аргументамі, што і Аляксандр Лукашэнка.

Мікалай Бекіш, у прыватнасці, заначаў, што гэта дагавор зусім раўнацэнных дзяржаў, і вельмі добра, што ён заключаны цяпер, а не праз два гады, бо пакуль у нас яшчэ ёсць асноўныя вытворчыя фонды, якія мы можам выкарыстаць у эканамічным супрацоўніцтве з Расіяй. На думку М.Бекіша, Расія — краіна багацейшая, за ёй будучыня, і адрывацца ад яе не варта. Паводле яго перакананя, Беларусь і Расія будуць супрацоўнічаць як дзве паўнапраўныя дзяржавы.

Станіслаў Багданкевіч не аспрэчваў неабходнасці дружбы і добрых эканамічных адносінаў з Расіяй, аднак ён зазначыў, што шчырыя палітыкі павінны патлумачыць людзям, у якой ступені яны могуць ускладаць свае надзеі на саюз з Расіяй. «Ці палепшыцца жыццё людзей, калі Беларусь інтэгруецца ў адсталую расійскую эканоміку?» — задаў пытанне С. Багданкевіч. І сам адказаў, што Беларусі неабходна перш за ўсё выкарыстаць вопыт Польшчы, Літвы і іншых краін у сувязях з Захадам, дзе лепшыя тэхналогіі, якасныя тавары, высокі ўзровень энергазберажэння. «Я магу быць задаволены толькі сінхранізацыяй нашых рэформаў з Расійскай Федэрацыяй», — зазначыў С. Багданкевіч, дадаўшы, што ў падпісанні гэтага дагавора яго здзіўляе паспешлівасць, з якой гэта было зроблена, і што ён бачыць шкоду ад гэтага дагавора ў тым, што ён правакуе на ўхіленне ад тэрміновага вырашэння нашых унутраных эканамічных праблем, жывіць старыя ілюзіі.

Аляксандр Дабравольскі выкарыстаў вядомую пагаворку Станіслава Шушкевіча, што дрэнным бацькам больш прыемна рабіць новых дзяцей, чым адмываць ранейшых, і зазначыў, што нам трэба было б дабівацца выканання папярэдніх пагадненняў, у прыватнасці ў рамках СНД і мытнага саюза, а не спяшацца падпісваць новыя дагаворы, ствараць новыя чыноўніцкія органы. Усё- такі гэта не дагавор дзвюх раўнацэнных дзяржаў, лічыць А. Дабравольскі, бо ў Расіі каля 150 млн. насельніцтва, а ў нас толькі 10. Расія прэтэндуе на статус супердзяржавы, яна канкуруе з НАТО...

А навошта Беларусі ўмешвацца ў гэта і лічыць сябе сапернікам НАТО, навошта выказваць прэтэнзіі на ўплыў на сусветную палітыку, задаваў рытарычныя пытанні А. Дабравольскі. Ён выказаў занепакоенасць вайсковымі пагадненнямі ў рамках гэтага дагавора.

Анатоль Красуцкі запярэчыў апанентам тым, што гэты дагавор заснаваны на пачуццях дружбы і сваяцтва беларусаў з расійскім народам і галоўная яго мэта — аб'яднанне матэрыяльнага і інтэлектуальнага патэнцыялу нашых краін. «Іншага шляху, як шлях разам з Расіяй, — у нас няма», — рэзюмаваў А. Красуцкі. Ён, як дэпутат ад Трактаразаводскай акругі, выказаў спадзяванне, што гэты дагавор дасць новыя перспектывы для калектыву Мінскага трактарнага завода і іншых вялікіх прадпрыемстваў нашай краіны.

Дыскусія працягвалася па тэме: ці застанецца Беларусь у выніку інтэграцыі з Расіяй суверэннай дзяржавай? Калі А. Красуцкі і М. Бекіш асабліва не сумняваліся ў гэтым, то А. Дабравольскі і С. Багданкевіч былі гэтым моцна занепакоены.

— Я не ведаю краіны ці народа, якія б адмовіліся ад такога падарунку лёсу, як суверэнітэт, які патрэбна пакінуць сваім дзецям... У выніку гэтага саюза будзе анексія, а не інтэграцыя. Лепш ужо шчыра сказаць, што мы хочам увайсці ў састаў РФ і стаць губерняй, калі мы лічым сябе непаўнацэннымі... А так у Расіі цяпер прагматыкі, ад якіх цяжка будзе чакаць падарункаў, — зазначыў С. Багданкевіч.

У канцы «круглага стала» вядучая папрасіла дэпутатаў выказаць сваё бачанне перспектыў беларуска-расійскіх адносінаў, даць свой прагноз.

А. Красуцкі зазначыў, што інтэграцыя будзе развівацца, але ў якой форме яна зафіксуецца ў бліжэйшыя гады, сёння сказаць немагчыма, прычым А. Красуцкі назваў такія верагодныя формы такой інтэграцыі, як канфедэрацыя і федэрацыя.

Дэпутат М.Бекіш зазначыў, што Беларусь усё такі застанецца суверэннай краінай, аднак будзе далей збліжацца з Расіяй, што ён асабіста і падтрымаў.

Такую ж думку выказаў і Станіслаў Багданкевіч, які акрамя гэтага зазначыў, што ў бліжэйшы час трэба чакаць далейшага збяднення народа.

Аляксандр Дабравольскі перасцярог ад паспешлівых дзеянняў у інтэграцыі, якія, на яго думку, могуць прынесці шкоду, і заявіў, што, у рэшце рэшт, гісторыя расставіць усё па сваіх месцах.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Колькі можа каштаваць перакуленая кававарка? 50 тысяч долараў. Але пры ўмове, што кава была вельмі гарачая, а кававарку перакулілі, няхай і выпадкова, на маленькага хлопчыка. Малазійскі суд абавязаў авіякампанію «Мэлэйшн Эйрлайнз» выплаціць 9-гадоваму пасажыру каля 50 тысяч долараў у якасці кампенсацыі за боль. Сцюард выпадкова перакуліў на яго кававарку, у выніку чаго хлопчык з апёкамі на 15 дзён трапіў у бальніцу.

**ІТАР—ТАСС.**

А ці ведаеце вы, колькі важыць канцлер ФРГ Гельмут Коль?

Мы не ведаем. Гэта дзяржаўная тайна. Рост яго, праўда, вядомы — 193 см. А калі журналісты ацанілі яго вагу ў 177 кг, установа канцлера назвала гэта «поўнай лухтой». Зараз Гельмут Коль праводзіць велікодны адпачынак у мястэчку Бад-Хофгаштайн на Бадэнскім возеры, прытрымліваючыся пры гэтым строгай дыеты: гарбата, крыху малака, булачкі (колькасць не ўдакладняецца). Велікодных пастоў ён прытрымліваецца ўжо 12 гадоў, таму што лічыць сваю вагу залішняй.

**ІТАР—ТАСС.**

Аб тым, што некаторыя згаладалыя жыхары Літвы не грэбуюць бадзяжнымі сабакамі і кошкамі, — вядома. Такія выпадкі апісаны ў друку. Але вось ахвярай беспрацоўных стаў і хатні дварняк.

Жыхарка Каўнаса прыйшла ў госці да сяброўкі, папярэдне прывязаўшы каля хаты свайго сабаку. А калі вярнулася, знайшла... толькі акрываўленую шкуру. Разам з сяброўкай вырашыла зайсці ў адну кватэру, дзе, на погляд жанчын, маглі быць тыя, хто ўкраў сабачку. Так і аказалася. Сабака ўжо варыўся ў каструлі...

**«Труд».**

*СВЯТА Ў ВАШУ ХАТУ*

# ПРАДВЕСНІК ВЯЛІКАГА СВЕТЛАГА ДНЯ

***Дабравешчаннiко святое,***
***Пайшлі сонейка залатое,***
***Каб зямелька адышла,***
***Ды вясна да нас прыйшла.***

У гэтым годзе вялікае свята праваслаўных Дабравешчанне (Звеставанне, Благавешчанне) адзначаецца ў адзін дзень з Вербнаю нядзеляй — 7 красавіка.

Нашы продкі гаварылі, што Дабравешчанне — самае вялікае ў Бога свята, бо, як і на Вялікдзень, нават грэшнікаў у пекле не катуюць.

Лічылася, што працаваць — цяжкі грэх. І не толькі ў людзей. Увесь жывы свет шануе свята. «На Дабравешчанне дзеўка касу не пляце, птушка гнязда не ў'е».

Казалі, калі птушка праспіць усход і саў'е гняздо, то ў пакаранне за гэта ў яе адымаюцца крылы на нейкі час, яна ходзіць па зямлі, а не лятае.

Па павер'ях, на Звеставанне Бог благаслаўляе зямлю і адчыняе яе для сяўбы. Адсюль існуе звычай напярэдадні свята свяціць зерне.

Славяне лічылі Дабравешчанне святам міру, дабра, волі, таму выпускалі птушак з клецяў з думкамі, што гэтыя стварэнні будуць славіць перад Богам тых, хто даў ім свабоду.

***На Беларусі свята —***
***дзень прылёту буслоў.***
***Бусел, бусел-клекатун,***
***Узяў бабу за каўтун.***

Шчасціла тым, кто ўбачыць першага бусла, але толькі таго, што ляціць, бо птушка, якая стаяла нагамі на зямлі, трапляючы на вочы, быццам бы несла хваробу ног.

Дабравешчанне было вяхою ў прадказанні надвор'я. Дождж — багата хлеба. Суха — засуха. Калі дзень выдаваўся сонечны, цёплы, лічылі, што год будзе цяжкім, чакалі пажараў.

Адзначым, што раней дзень лічыўся пачаткам года. Таму захаваўся звычай выкідваць і паліць старыя рэчы. Тут адзначаецца паралель між Дабравешчаннем і Купалам праз веру ў ачышчальную сілу полымя.

Ідучы год прызапасіў нам двайное свята. Таму ў дзень Звеставання праваслаўныя будуць свяціць вярбу. Яе ўпрыгожваюць папяровымі стужкамі, кветкамі. Вярба — здаровае, набрынялае веснавымі сокамі дрэва — павінна перадаць сваю моц і прыгажосць людзям і жывёлінам. Асвячонай вярбой датыкаюцца да ўсіх з пажаданнямі дабра і радасці.

***Будзь вялікім, як вярба,***
***А здаровым, як вада,***
***А багатым, як зямля.***

На Піншчыне калісьці, каб не балелі зубы, з'ядалі дзевяць вербных пупышак. Нібы б'ючы хворых, прыгаворвалі: «Не я б'ю, верба б'е! Хіра ў лес, а здароў'е ў косці!»

Лічылі, што хату, дзе ёсць вярба, абыдуць маланкі і перуны, а яшчэ яна зачыняе ўваход нечысці і ведзьмакам.

У Вербную нядзелю частуюць усіх блінамі і кашай.

Наступны, апошні тыдзень Вялікага посту — Вербны (Страстны).

Дабравешчанне — свята надзеі, волі, шчасця. Вербніца — прадвеснік Вялікага светлага дня.

Сёлета быццам злыя духі закавалі зямлю, і яна, зачараваная, не можа змагацца з бясконцымі маразамі і халоднымі вятрамі. Бог як бы дараваў ёй сваю міласць, аб'яднаўшы два вялікія святы ў дапамогу людзям для пераадолення зімы ва ўласных душах.

**Ганна ГАЎРЫЛЬЧЫК.**

## КАРТА ЗАБРУДЖВАННЯ ТЭРЫТОРЫІ ЦЭЗІЕМ-137 ПА СТАНУ НА 1995 ГОД




## КАРТА ЗАБРУДЖВАННЯ ТЭРЫТОРЫІ СТРОНЦЫЕМ-90 І ПЛУТОНІЕМ-239--240 ПА СТАНУ НА 1995 ГОД






### *Заўвагі*

***На карце забруджвання тэрыторыі ... вобласць не паказана, паколькі яна пр... бодная ад радыенуклідаў. Такі ж пры... друкаванні астатніх карт.***

***Інтэрв'ю - каментарый да змешчан... тэрыялаў будзе апублікавана ў насту...***

# РАДЫЯЦЫЙНАЯ АБСТАНОЎКА НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**КАРТА-ПРАГНОЗ ЗАБРУДЖВАННЯ ТЭРЫТОРЫІ ЦЭЗІЕМ-137 НА 2016 ГОД**







***...агі***

***...торыі цэзіем — 137 Віцебская ...яна практычна поўнасцю сва... ...ж прынцып прыменены і пры***

***...ешчаных картаграфічных ма... ...наступным нумары газеты.***

# МІЖ СЛОЎ ШУКАЙЦЕ ЗЕРНЕ

Першы значны для чалавека юбілей — 50-годдзе — святочны. Нават для жанчын, якім нагадваць пра ўзрост лішні раз проста нетактоўна.

*У гэты рубеж — 50 гадоў — здаецца, гэта не твае гады. Аднак Бог дараваў мне іх пражыць. Добра-дрэнна, здаровай і хворай, з ворагамі і сябрамі.*

Так сказала пра сябе, свой ўзрост напярэдадні юбілею беларуская паэтка, празаік Валянціна Коўтун.

Валянціна нарадзілася 6 красавіка 1946 г. у вёсцы Дземяхі Рэчыцкага раёна. Нарадзіўшыся на Гомельшчыне, свае званкі з ўрокаў Валянціна слухала ў школах на Піншчыне, куды пераехалі яе бацькі, абодва настаўнікі. Школьны выпускны званок празвінеў ёй у 1963-м у Малатковіцкай сярэдняй школе. Пасля яе заканчэння лёс павёў дзяўчыну (ці, можа, яе будучыя героі?) у Львоў, у старажытны універсітэт, дзе жыла яна ў старадаўнім кляштары. Магчыма, у тым самым пакойчыку, дзе жыла Алаіза Пашкевіч-Цётка.

Што даў Львоў Валянціне Коўтун? **«Львоў даў мне Беларусь»**. Але не толькі. Адтуль пачаўся шлях дзяўчыны ў літаратуру. У Львове ў 1966 г. адбыўся паэтычны дэбют В. Коўтун, трэцякурсніцы філфака Львоўскага універсітэта, дэбют на старонках часопіса «Жовтэнь». А напрыканцы таго ж года з паэзіяй 20-гадовай дзяўчыны чытачоў «Літаратуры і мастацтва» знаёміў Анатоль Вярцінскі.

«Хораша расце і папаўняецца новымі сіламі наша паэзія!» — захоплена ўсклікнуў ва ўступным слове не нашмат старэйшы за яе паэт і не памыліўся. Дзесятак паэтычных зборнікаў і кніг — такі здабытак, якім сустракае свой юбілей Валянціна Коўтун. За кнігу паэзіі «Метраном» яна стала лаўрэатам Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя А.Куляшова (1988). У той лаўрэацкі, 1988 год, у Коўтун выйшла першая кніга дылогіі «Крыж міласэрнасці» — раман пра Алаізу Пашкевіч-Цётку.



*З чаго пачалася Цётка? Спачатку была задума напісаць пра яе паэтычны твор — паэму «На зломе маланкі». З цягам часу прыходзіла разуменне геаметрычнай сумяшчальнасці эпох. Амаль фізічнае адчуванне той, нашаніўскай, эпохі. Цётка ў мяне пачалася з усведамлення: у мяне ёсць мінулае і будучыня.* ***Бог даў мне Беларусь.*** *Такую, якая яна ёсць. Я шмат у чым нацыяналістка. І няхай кожны разумее гэта слова па-свойму, але я нацыяналістка дэмакратычнага разумення. У Еўропе ёсць паняцце нацыянальнай годнасці, нацыянальнай самастойнасці, і я працiўнік кібітачнай псіхалогіі, калі няма Радзімы, каранёў. Ёсць толькі дарога, але невядома адкуль і куды. І дзеля чаго.*

Пачаць пісаць гістарычны раман — мужнасць. Да гонару Валянціны Коўтун, яна не спынілася на паўдарозе і ў юбілейны год зрабіла сабе найлепшы падарунак — дапісала дылогію. Тым самым заняўшы сваё годнае месца ў беларускай літаратуры.

*Літаратура — арганны плач па чалавечых лёсах. Успамін пра мінулае. А ў кожным арганным гуку ёсць сяганне ў вышыню, у неба. Мы аддаём нашых герояў на суд вечнасці. На гэтым судзе ў нашых герояў адзін адвакат: нашы пісьменнікі.*

У юбілейны год думаецца не пра здзейсненае, а пра нязробленае.

Пра тое, што не зроблена, я выслухаю з вуснаў сяброў на маім 50-годдзі. Планы ж мае выношваюцца ўнутры. Каб не страціць канчаткова надзеі на лепшае будучае, планы ёсць, і калі дасць Бог сіл і здароўя, пачну пісаць гістарычны раман, у аснове якога будзе праблема лекарства, вылячэння духу і цела. Якая эпоха? Пачатак хрысціянства.

Поспеху і плёну Вам, Валянціна Міхайлаўна, на тым полі і на той сцяжыне, якую самі колісь выбралі. Памятаеце, як напісала пра Вас зямлячка і сяброўка Жэня Янішчыц?

*...Зашамаціць услед чарот.*
*Дзе зоры? Невядома.*
*Ды не застрашыць зводнік-чорт*
*І не заб'е нас громам!*
*У міласэрнай варажбе*
*Шукаючы спатолю,*
*Мы сцежку выбралі сабе*
*Як песню. І як долю.*

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**



Тысячы пісьмаў, паштовак, пасылак, мільёны газет і часопісаў штодзённа праходзяць праз рукі супрацоўнікаў дзяржаўнага прадпрыемства «Мінская пошта». У калектыве шмат прафесіяналаў вышэйшага ўзроўню, сапраўдных майстроў сваёй справы. Сярод іх — начальнік аддзела перавозкі пошты Марыя Васілеўская, якая працуе на прадпрыемстве амаль сорак гадоў.

**На здымках:** Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ; начальнік цэха Мікалай ЖАКАЎ, начальнік змены Ірына МАЖУГОВА, аператар Таццяна ІГНАТОВІЧ; дыспетчар Таццяна ПАРАХОЎНІК і аператар Вольга МАРЦЫНКЕВІЧ.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**





# СПРАВАЗДАЧА

## аб прыбытках і стратах за 1995 г. СЗАТ «Прамтрансінвест»

| Прыбытак | Млн. руб. | Страты (расходы) | Млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Страхавыя ўзносы па прамому страхаванню | 5566,0 | 1. Выплаты страхавога пакрыцця і страхавых сум | 940,0 |
| 2. Сродкі, прыцягнутыя з рэзерваў па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | - | 2. Выдаткі на вядзенне справы | 2111,0 |
| 3. Страхавыя ўзносы, атрыманыя ад перастраховачных аперацый | 859,0 | 3. Адлічэнні ў рэзервы па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | 1154,0 |
| 4. Іншыя даходы ад страхавой дзейнасці | - | 4. Аплачаныя страхавыя ўзносы па рызыках, перададзеных у перастрахаванне | 3978,0 |
| 5. Даходы ад пазарэалізацыйных аперацый | 818,0 | 5. Адлічэнні ў фонд папераджальных мерапрыемстваў | - |
| | | 6. Іншыя расходы | 429,0 |
| Усяго даходаў | 7243,0 | Усяго расходаў | 8612,0 |
| Страты | 1369,0 | Прыбытак | - |

# ГАДАВЫ БАЛАНС

## ЗА 1995 ГОД СЗАТ «ПРАМТРАНСІНВЕСТ»

| Актыў | Млн. руб. | Пасіў | Млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Разліковы рахунак | 101,0 | 1. Статутны капітал | 9,6 |
| 2. Валютны рахунак | 1078,0 | 2. Рэзерв па маёмаснаму страхаванню і страхаванню ад няшчасных выпадкаў | 1920,0 |
| 3. Рахункі ў банку па сродках рэзерваў плацяжоў | 3383,0 | 3. Рэзерв па страхаванню жыцця, пенсій і медыцынскаму страхаванню | - |
| 4. Каса | - | 4. Фонды і рэзервы спецыяльнага прызначэння | 4322,4 |
| 5. Асноўныя сродкі і іншыя доўгатэрміновыя актывы | 655,0 | 5. Сродкі ў разліках | - |
| 6. Дэбіторы | 39,0 | 6. Іншыя пасівы | 488,0 |
| 7. Іншыя актывы | 115,0 | 7. Непакрытыя страты мінулых гадоў | - |
| | | 8. Страты справаздачнага года | 1369,0 |
| Баланс | 5371,0 | Баланс | 5371,0 |

# КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ

## у камерцыйных банках на 5 красавіка 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. управл.) | 12900 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.50 | 2.70 | 769-533 |
| Белбізнесбанк (гар. дыр.) | 12700 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.45 | 2.65 | 271-906 067 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 12920 4900 | 13050 5000 | 8700 | 8900 | 2.61 | 2.66 | 531-504 |
| Банк «INKO» (за расійскія рублі) | 12950 4900 | 13100 5000 | 8600 | 8950 | 2.61 | 2.71 | 238-020 |
| Мінскі транзітны банк* | 12800 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 12900 | 13100 | 8550 | 8800 | 2.50 | 2.65 | 372-825 |
| Народны банк | 12900 | 13100 | 8700 | 8850 | 2.52 | 2.62 | 238-610 |
| «Алімп» | 12750 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.55 | 2.70 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 13000 | 13100 | 8600 | 8700 | 2.50 | 2.60 | 291-646 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 12700 | 13000 | 8550 | 9100 | 2.52 | 2.60 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безн. разл.) | 11700 | | 7900.27 | | 2.42 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4873 | | 3293.24 | | 100 бел.р. 41.20 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.31 | 19.53 | 13.22 |
| Віцебск – | 6.19 | 19.45 | 13.26 |
| Магілёў – | 6.20 | 19.43 | 13.23 |
| Гомель – | 6.17 | 19.40 | 13.23 |
| Гродна – | 6.44 | 20.10 | 13.26 |
| Брэст – | 6.49 | 20.07 | 13.18 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 4 красавіка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Лазарава субота. Захарыі, Арцемія, Сцяфана, Пятра, Іакава К. (Вялікая Субота) Вільгельма, Цылісціны**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску — 8—10, Магілёве — 9—11, Гродне, Мінску — 10—12, Брэсце, Гомелі — 11—13 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак захаваецца пераменная воблачнасць, ападкаў не чакаецца. Тэмпература ўначы — 1—6, удзень — 7—12, месцамі да 16 градусаў цяпла.

# МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 6-7 КРАСАВІКА

У бліжэйшыя двое сутак захаваецца цёплае надвор'е. Утрыманне кіслароду ў паветры панізіцца. 6 красавіка — няспрыяльны дзень у геафізічным плане. У такіх умовах павышаецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых з захворваннямі дыхальнай і сардэчна-сасудзістай сістэм.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, гуляць на свежым паветры, часцей праветрываць памяшканні, рэгулярна прымаць прызначаныя лекавыя прэпараты і полівітаміны.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# БУДУЧАМУ АБІТУРЫЕНТУ

## Пералік дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь

| № п/п | Назва навучальнай установы | Рэктар | Адрас | Тэлефон | Ведамства |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Беларускі дзяржаўны універсітэт | в. а. Кухарчык Пётр Дзмітрыевіч | 220080, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 4 | 20-75-38, 26-59-40 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 2. | Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія | Дзямчук Міхаіл Іванавіч | 220027, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 65 | 32-40-55, 32-77-52 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 3. | Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт | Карсека Раман Міхайлавіч | 220072, Мінск, Партызанскі прасп., 26 | 49-40-32, 49-51-06 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 4. | Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт | Жарскі Іван Міхайлавіч | 220036, Мінск, вул. Свярдлова, 13 | 26-02-78, 26-14-32 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 5. | Брэсцкі політэхнічны інстытут | Фёдараў Уладзіслаў Германавіч | 224017, Брэст, вул. Маскоўская, 267 | 42-74-57, 42-33-93 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 6. | Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт | Башметаў Валерый Сцяпанавіч | 210028, Віцебск, Маскоўскі прасп., 72 | 5-50-26, 5-51-82 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 7. | Гомельскі дзяржаўны універсітэт | Шамяткоў Леанід Аляксандравіч | 246699, Гомель, вул. Савецкая, 104 | 56-31-13, 56-73-71 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 8. | Гомельскі політэхнічны інстытут | Шагінян Альберт Сямёнавіч | 246746, Гомель, прасп. Кастрычніка, 48 | 48-16-00, 48-00-00 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 9. | Гродзенскі дзяржаўны універсітэт |Ківач Леанід Мікалаевіч | 230023, Гродна, вул. Ажэшкі, 22 | 47-01-73, 44-27-66 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 10. | Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі | Ільін Віктар Макаравіч | 220600, Мінск, вул. П. Броўкі, 6 | 32-32-35, 32-04-51 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 11. | Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут | Ходыраў Віктар Іванавіч | 212005, Магілёў, вул. Леніна, 70 | 23-61-00, 25-63-30 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 12. | Магілёўскі тэхналагічны інстытут | Чыжык Яўген Іванавіч | 212027, Магілёў, прасп. Шміта, 3 | 44-03-63, 44-32-27 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 13. | Полацкі дзяржаўны універсітэт | Бабенка Эрнест Міхайлавіч | 211440, Наваполацк, вул. Блахіна, 29 | 5-20-12, 5-23-83 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 14. | Брэсцкі дзяржаўны універсітэт | Сцепановіч Васіль Аляксеевіч | 224665, Брэст, бульвар Касманаўтаў, 21 | 3-01-41, 3-33-40 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 15. | Віцебскі дзяржаўны універсітэт | Вінаградаў Віктар Ніканавіч | 210036, Віцебск, Маскоўскі прасп., 33 | 5-41-05, 5-02-93 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 16. | Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт | Ціханаў Леанід Міканоравіч | 220809, Мінск, вул. Савецкая, 18 | 26-40-20, 26-40-23 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 17. | Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт | Баранава Наталля Пятроўна | 220034, Мінск, вул. Захарава, 21 | 33-05-44, 33-20-33 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 18. | Магілёўскі дзяржаўны педагагічны інстытут | Аўласевіч Міхаіл Аляксандравіч | 212028, Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1 | 26-31-17, 29-31-08 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 19. | Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут | Дударэнка Уладзімір Аляксандравіч | 247028, Гомельская вобл., Мазыр, вул. Студэнцкая, 28 | 2-15-85, 2-13-93 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 20. | Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту | Грунтаў Пётр Сцяпанавіч | 246653, Гомель, вул. Кірава, 34 | 52-57-13, 52-09-41 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 21. | Міжнародны інстытут радыеэкалогіі імя А. Д. Сахарава | Люцко Аляксандр Міхайлавіч | 220009, Мінск, вул. Даўгабродская, 23 | 30-61-82, 30-68-97 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 22. | Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж | Цырэльчук Мікалай Андрэевіч | 220005, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 62 | 32-62-85 | Міністэрства адукацыі і навукі |
| 23. | Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія | Цыганоў Аляксандр Рымавіч | 213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Мічурына, 5 | 2-15-45, 2-28-49 | Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 24. | Беларускі аграрны тэхнічны універсітэт | Герасімовіч Леанід Сцяпанавіч | 220608, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 99 | 64-61-91, 64-47-71 | Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 25. | Віцебская дзяржаўная акадэмія ветэрынарнай медыцыны | Магіленка Анатолій Філімонавіч | 210619, Віцебск, вул. 1-я Даватара, 7/11 | 37-20-44, 37-22-34 | Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 26. | Беларуская акадэмія музыкі | Казінец Міхаіл Антонавіч | 220030, Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30 | 27-49-42, 26-19-96 | Міністэрства культуры |
| 27. | Беларуская акадэмія мастацтваў | Шарангові Васіль Пятровіч | 220600, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 81 | 32-15-42, 32-03 63 | Міністэрства культуры |
| 28. | Акадэмія фізічнага выхавання і спорту Рэспублікі Беларусь | Бондар Аляксандр Іванавіч | 220020, Мінск, прасп. Машэрава, 105 | 50-80-08, 50-63-43 | Міністэрства спорту і турызму |
| 29. | Віцебскі дзяржаўны медыцынскі інстытут | Сачак Міхаіл Рыгоравіч | 210602, Віцебск, прасп. Фрунзе, 27 | 4-17-65, 4-10-63 | Міністэрства аховы здароўя |
| 30. | Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі інстытут | Маслакоў Дзмітрый Андрэевіч | 230015, Гродна, вул. Горкага, 80 | 33-03-65, 33-26-61 | Міністэрства аховы здароўя |
| 31. | Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут | Песціс Вітольд Казіміравіч | 230600, Гродна, вул. Церашковай, 28 | 47-01-68, 47-14-97 | Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 32. | Беларускі універсітэт культуры | Грыгаровіч Ядвіга Дамінікаўна | 220001, Мінск, вул. Рабкораўская, 17 | 25-51-54, 25-49-82 | Міністэрства культуры |
| 33. | Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут | Кубарка Аляксей Іванавіч | 220116, Мінск, прасп. Дзяржынскага, 83 | 71-94-24, 53-41-21 | Міністэрства аховы здароўя |
| 34. | Гомельскі дзяржаўны медыцынскі інстытут | Бандажэўскі Юрый Іванавіч | 246000, Гомель, вул. Ланге, 5 | 53-10-62, 53-41-21 | Міністэрства аховы здароўя |
| 35. | Вышэйшы каледж сувязі Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь | Баркун Міхаіл Аляксеевіч | 220114, Мінск, Старабарысаўскі тракт, 8, к. 2 | 64-44-14 | Міністэрства сувязі і інфарматыкі |
| 36. | Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь | нач. Данько Валерый Антонавіч | 220771, Мінск, вул. Варвашэні, 6 | 33-31-15, 33-20-79 | Міністэрства ўнутраных спраў |
| 37. | Вышэйшае пажарна-тэхнічнае вучылішча МУС Рэспублікі Беларусь | Вараб'ёў Уладзімір Клаўдзіевіч | 220118, Мінск, вул. Машынабудаўнікоў, 25 | 40-35-57, 40-53-93, 41-77-11 | Міністэрства ўнутраных спраў |
| 38. | Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь | нач. Фляркo Рыгор Іванавіч | 220057, Мінск-57 | 69-43-38, 69-42-32 | Міністэрства абароны |
| 39. | Гомельскі кааператыўны інстытут | | 246069, Гомель, прасп. Кастрычніка, 52-а | 48-17-07, 48-05-58 | Белкаапсаюз |

## ЦЭНЫ

**сталічнага рэчавага рынку «Дынама»**

| Назва | Вытворчасць | Цана |
|---|---|---|
| **Адзенне і абутак** | | |
| Касцюм жаночы | Польшча | 60--90$ |
| Блузкі жаночыя | Польшча | 15--17$ |
| Сукенка | Польшча | 35$ |
| Джэмпер | Індыя | 20$ |
| Майка спарт. | Турцыя | 6$ |
| Купальнік | Германія | 12$ |
| Калготкі | Італія | 2--10$ |
| Джынсы «Levi's» | Кітай | 100$ |
| Джынсы «Wrangler» | Тайвань | 150$ |
| Джынсы «Lato» | Турцыя | 18--20$ |
| Кашулі дж. | Турцыя | 20--25$ |
| Джынсы | Турцыя | 25--27$ |
| Джынсы | Турцыя | 13$ |
| Красоўкі | КНР | 30--40$ |
| Туфлі муж. | Італія | 30$ |
| Туфлі муж. | Чэхія | 25$ |
| **Курткі** | | |
| Скура | Турцыя | 150$ |
| Скура з кавалачкаў | Турцыя | ад 100$ |
| Скура «еўралюкс» | Францыя | ад 120$ |
| Куртка муж. | Марока | 180$ |
| Куртка жан. | Карэя | 220$ |
| Паліто скур. жан. | Карэя | 260$ |
| Куртка муж. | Карэя | 250$ |
| Куртка муж. | Турцыя | 245$ |
| Куртка жан. | Турцыя | 220$ |
| Плашч жан. | Турцыя | 350$ |
| Кажух жан. | Чэхія | 370$ |
| Кажух муж. | Чэхія | 350$ |
| Куртка муж. | Н. Зеландыя | 280$ |
| **Футры** | | |
| Футра | Індыя | 200$ |
| Футра | Турцыя | 250$ |
| Футра | Польшча | 100$ |
| **ТВ, відэа-, аўдыёапаратура** | | |
| ВМ «Panasonic» | Карэя | ад 300$ |
| ТЦ «Гарызонт» кубік | РБ | 150$ |
| Ігравы камп'ютэр | Тайвань | 40$ |
| Муз. ц. «Айва» | Малайзія | 340--370$ |
| Муз. ц. «Шарп» | Малайзія | 400$ |
| ВП «Samsung» | Карэя | 175$ |
| ВП «Акай» | Малайзія | 175$ |

| Плата за пастаянныя гандлёвыя месцы (тыс. бел. рублёў у дзень) | |
|---|---|
| На калонах | 50.000 |
| На сталах, абсталяваных дадатковымі прыстасаваннямі, | 60.000 |
| На сталах | 55.000 |
| На рашотках агароджы і варот | 60.000 |
| Пад раскладушкі | 55.000 |
| Пад палаткі | 60.000 |
| **Плата за паслугі, якія аказваюцца на рынку** | |
| За ўваход | 2000 |
| За прадастаўленне права продажу і абмену тавараў | 18.000 |
| Уезд пад пагрузку і разгрузку тавараў | 17.000 |
| **Плата за аказанне дадатковых паслуг** | |
| Карыстанне пераносным столікам | 20.000 |
| Карыстанне гучнагаварыцелем: | |
| разавая камерцыйная аб'ява | 6000 |
| камерцыйная рэклама | 15.000 |
| Карыстанне прымерачнай | 4000 |
| Праверка дыскавых і электронных (без праграм) тэлефонаў | 3000 |
| Праверка апаратаў з праграмамі | 7500 |
| Праверка радыё- і тэлеапаратуры | ад 6500 да 19.000 |
| Карыстанне камерай захоўвання | 10.000 |

# ІНФАРМАЦЫЯ АБ ВАКАНСІЯХ, СВАБОДНЫХ РАБОЧЫХ МЕСЦАХ І НАЯЎНАСЦІ ЖЫЛЛЯ Ў ГАСПАДАРКАХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

| № п/п | Гаспадарка | Вакансіі і свабодныя месцы | Кольк. св. месцаў | Прадастаўляемае жыллё |
|---|---|---|---|---|
| **Мінская вобласць** | | | | |
| **Уздзенскі раён тэл. РЦЗН 8-218-551-14** | | | | |
| 1 | Падсобная гаспадарка «Ніва», БелОМА, в. Прусінава, т. 433-61, 433-14 | гал. інжынер | 1 | прадастаўляецца добраўпарадкаваны інтэрнат |
| | | заг. майстэрняў | 1 | |
| | | бухгалтар | 1 | |
| | | жывёлаводы | 6 | |
| | | паляводы | 6 | |
| | | электрыкі | 2 | |
| | | токар | 1 | |
| **Пухавіцкі раён тэл. РЦЗН 8-213-520-55** | | | | |
| 1 | К-с імя Кірава, в. Арэшкавічы, т. 509-14 | гал. эканаміст | 1 | 1 трохпакаёвая кватэра |
| | | галоўны інжынер | 1 | |
| **Стаўбцоўскі раён тэл. РЦЗН 8-217-558-54** | | | | |
| 1 | К-с «1 Мая», в. Літва, т. 5-41-84, 4-34-30 | гал. інжынер | 1 | дамы прысядзібнага тыпу, 3 кватэры |
| | | гал. заатэхнік | 1 | |
| | | даяркі | 2 | |
| | | механізатары | 2 | |
| 2 | К-с «За мір», в. Старына, т. 5-50-00, 3-46-83 | гал. ветурач | 1 | дамы прысядзібнага тыпу |
| | | ветфельчар | 1 | |
| | | тэхнік па штучнаму асемяненню | 1 | |
| | | даяркі | 2 | |
| | | гал. інжынер | 1 | |
| | | жывёлаводы | 2 | |
| | | механізатары | 2 | |
| **Вілейскі раён тэл. РЦЗН 8-271-565-88** | | | | |
| 1 | К-с «Ленінскі камсамол», в. Балашы, т. 6-11-32 | жывёлаводы (4 сям'і) | | дамы прысядзібнага тыпу |
| **Барысаўскі раён тэл. РЦЗН 8-277-302-32** | | | | |
| 1 | К-с «Маяк», в. Жыцькава | ветурач | 1 | прадастаўляецца |
| 2 | С-с «Траянаўка», в. Траянаўка | гал. інжынер | 1 | |
| | | прараб | 1 | прадастаўляецца кватэра |
| 3 | Псіханеўралагічны дом-інтэрнат, пас. Тарасікі | заг. падсобнай гаспадаркі (мець адну са спецыяльнасцей: аграном, заатэхнік, ветурач) | 1 | жыллё прадастаўляецца |
| **Лагойскі раён тэл. РЦЗН 8-247-543-59** | | | | |
| 1 | З-д «Кобальт», г. п. Плешчаніцы, т. 71-4-56 | токары | 4 | прадастаўляецца інтэрнат |
| | | слесары МЗР | 2 | |
| | | інжынер-тэхнолаг | 2 | |
| | | тэхнолаг па радыёмантажу | 1 | |
| | | рэгуліроўшчык радыёапаратуры | | |
| | | хімік-тэхнолаг | | |
| | | наладчык станкоў з ЛПК | | |
| 2 | К-с Сёмкава, в. Сёмкава, т. 56-3-21 | заатэхнік | 1 | кватэра без выгод |
| | | майстар-будаўнік (прараб) | | |
| **Салігорскі раён тэл. РЦЗН 8-210-376-16** | | | | |
| 1 | Падсобная гаспадарка «Салагошч», в. Салагошч, т. 7-94-31 | ветурач | 1 | жыллё прадастаўляецца |
| | | даяркі | 3 | |
| | | заатэхнік | 1 | |
| 2 | К-с «Праўда», в. Жоўты Брод, т. 76-33-2 | даяркі | 2 | жыллё маецца |
| | | ст. энергетык | 1 | |
| | | заатэхнік | 1 | |
| **Дзяржынскі раён тэл. РЦЗН 8-216-643-32** | | | | |
| 1 | С-с «Дзямідавічы», п. Юцкі, т. 3-51-23 | даярка | 1 | прадастаўляецца кватэра |
| | | механізатар | 1 | |
| | | заг. гаража | 1 | |
| | | інжынер па с/г машынах | 1 | |
| **Любанскі раён тэл. РЦЗН 8-294-541-34** | | | | |
| 1 | К-с «Гарадзяцічы», т. 58-4-33 | інжынер-будаўнік | 1 | 2 індыв. жылыя дамы |
| | | інжынер-энергетык | 1 | |
| **Слуцкі раён тэл. РЦЗН 8-295-559-71** | | | | |
| 1 | К-с «Памяць Ільіча», в. Селішча, т. 99-2-32, 5-24-45 | цясляр 5-6 разраду | 1 | дом |
| **Віцебская вобласць** | | | | |
| **Лёзненскі раён тэл. РЦЗН 8-021-38-255-09** | | | | |
| 1 | К-с імя Фрунзе, в. Зачэрня, т. 2-21-23 | гал. заатэхнік | 1 | 3 кватэры |
| | | трактарысты | 2 | |
| | | даяркі | 3 | |
| **Пастаўскі раён тэл. РЦЗН 8-021-55-221-43** | | | | |
| 1 | К-с імя Заслонава, в. Палессе, т. 2-14-91 | інжынер-электрык | 1 | дом прысядзібнага тыпу |
| 2 | К-с імя Чапаева, в. Веранькі, т. 2-35-37 | ветурач | 1 | дом прысядзібнага тыпу |
| **Глыбоцкі раён тэл. РЦЗН 8-256-210-94** | | | | |
| 1 | К-с імя Калініна, в. Меразкія, т. 3-23-71, 3-94-38, 3-94-39 | жывёлавод | 1 | 1 кватэра |
| | | механізатар (1 клас) | 1 | |
| **Верхнядзвінскі раён тэл. РЦЗН 8-021-55-211-43** | | | | |
| 1 | К-с «Юны свет», в. Сакалоўшчына, т. 2-31-32 | ветурач з вышэйшай адукацыяй | 1 | дом прысядзібнага тыпу |
| 2 | К-с «Дружба», в. Відокі, т. 2-30-43 | гал. аграном | 1 | |
| | | ветурач | 1 | |
| | | гал. інжынер | 1 | |
| **Гарадоцкі раён тэл. РЦЗН 8-239-213-42** | | | | |
| 1 | С-с «50 гадоў ВЛКСМ», в. Кабішча, т. 3-97-41 | гал. заатэхнік | 1 | 1 кватэра |
| **Міёрскі раён тэл. РЦЗН 8-252-212-75** | | | | |
| 1 | К-с «Шлях да камунізму», в. Сіцькава, т. 2-65-42, 2-65-41 | аграномы | 2 | 8 дамоў, 1 кватэра |
| | | ветурачы | 2 | |
| | | заг. фермай | 2 | |
| | | механізатары | 2 | |
| | | селекцыянер-заатэхнік | 1 | |
| **Шумілінскі раён тэл. РЦЗН 8-021-30-211-49** | | | | |
| 1 | К-с імя Урыцкага, в. Сіроціна, т. 2-41-31 | жывёлаводы | 2 | 4 кватэры |
| | | механізатары | 2 | |
| **Гомельская вобласць** | | | | |
| **Веткаўскі раён тэл. РЦЗН 8-023-30-218-97** | | | | |
| 1 | К-с «Іскра», в. Прысна | гал. заатэхнік | 1 | дамы прысядзібнага тыпу для гал. спецыялістаў |
| | | гал. аграном | 1 | |
| | | ветурач | 1 | |
| 2 | С-с «Немкі», в. В. Немкі | даяркі | 2 | дамы прысядзібнага тыпу |
| | | даглядчыкі жывёлы | 4 | |
| | | цялятніцы | 3 | |
| **Чачэрскі раён тэл. РЦЗН 8-023-32-2-23-81** | | | | |
| 1 | К-с імя Кірава, в. Крутое, т. 2-37-73 | гал. ветурач | 1 | дамы прысядзібнага тыпу |
| | | гал. заатэхнік | 1 | |
| 2 | Упраўленне с/г, г. Чачэрск, т. 2-13-20 | начальнік планава-эканамічнага аддзела | 1 | дамы прысядзібнага тыпу |
| | | эканаміст | 1 | |
| 3 | К-с «Мяркулавічы», в. Мяркулавічы, т. 2-32-30 | гал. ветурач | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| | | гал. заатэхнік | 1 | |
| | | механізатары | 5 | |
| 4 | К-с імя Леніна, п. Вазнясенскі, т. 2-15-49 | гал. заатэхнік | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| 5 | г. Чачэрск, раённая бальніца, т. 2-11-70 | урачы | 20 | дамы сядзібнага тыпу |
| 6 | К-с «Зорка», в. Залессе, т. 2-18-51 | гал. ветурач | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| **Нараўлянскі раён тэл. РЦЗН 8-023-55-2-23-41** | | | | |
| 1 | С-с «Дзяржынскі», в. Дзяржынск | аграном | 1 | неўпарадкаванае жыллё |
| | | бухгалтар | 1 | |
| | | даяркі | 2 | |
| | | механізатары | 2 | |
| 2 | К-с «Чырвоны баец», в. Завойць, т. 2-11-61 | гал. заатэхнік | 1 | неўпарадкаванае жыллё |
| **Рагачоўскі раён тэл. ГЦЗН 8-023-39-2-39-43** | | | | |
| 1 | К-с «17 партз'езд», в. Крушынаўка, т. 7-22-48, 7-22-21 | гал. бухгалтар | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 2 | К-с «Бальшавік», в. Звонец, т. 6-62-18 | нам. гал. бухгалтара | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 3 | С-с «Побалава», в. Побалава, т. 4-32-47, 4-32-99 | гал. заатэхнік з в/а і вопытам работы | 1 | дом сядзібнага тыпу (пакуль пакой у інтэрнаце) |
| **Гомельскі раён тэл. РЦЗН 8-0232-322-16** | | | | |
| 1 | С-с «Сацыялізм», в. Цяруха, т. 905-218 | гал. інжынер (в/а) | 1 | дом |
| 2 | С-с імя Някрасава, в. Р.-Марымонава, т. 9-11-346 | ветфельчар | 1 | дом |
| 3 | Турбаза «Сож», п. Чонкі, т. 96-14-98 | повар 5 разраду | 1 | інтэрнат |
| | | электрык | 1 | |
| **Калінкавіцкі раён тэл. РЦЗН 8-023-45-2-05-03** | | | | |
| 1 | К-с імя Калініна, в. Носавічы, т. 2-15-17 | гал. бухгалтар | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| | | заг. фермы | 1 | |
| 2 | С-с «Азарычы», г. п. Азарычы, т. 6-13-39 | гал. ветурач | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| | | гал. аграном | 1 | |
| | | інжынер | 1 | |
| 3 | К-с імя Гастэлы, в. Міхнавічы, т. 4-02-36 | гал. бухгалтар | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 4 | К-с «Ленінская іскра», в. Якімовічы, т. 2-15-21 | бухгалтар | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| | | гал. ветурач | 1 | |
| 5 | К-с імя Леніна, в. Юрэвічы, т. 2-03-45 | гал. бухгалтар | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| | | гал. эканаміст | 1 | |
| | | гал. заатэхнік | 1 | |
| 6 | К-с «Чырвоная дубрава», в. Кошычы, т. 2-04-20 | гал. інжынер | 1 | жыллё неўпарадкаванае |
| | | гал. ветурач | 1 | |
| | | гал. заатэхнік | 1 | |
| | | заг. майстэрні | 1 | |
| 7 | К-с «Зара», в. Хобнае, т. 2-10-10 | гал. заатэхнік | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| | | гал. ветурач | 1 | |
| 8 | К-с «Сейбіт», в. Казанск, т. 3-72-24 | гал. заатэхнік | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 9 | Эксперыментальная база «Ліпава», в. Ліпава, т. 6-42-10 | гал. ветурач | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 10 | К-с імя Кірава, в. Міроненкі, т. 2-21-33 | гал. аграном | 1 | дамы сядзібнага тыпу для гал. спецыялістаў |
| | | гал. ветурач | 1 | |
| | | ветурач | 1 | |
| | | брыгадзір | 1 | |
| | | ветфельчар | 1 | |
| | | трактарысты | 2 | |
| | | даяркі | 3 | |
| **Брагінскі раён тэл. РЦЗН 8-023-44-211-07** | | | | |
| 1 | К-с «Чырвоны Кастрычнік», в. Мікулічы, т. 2-14-42 | гал. заатэхнік | 1 | дамы сядзібнага тыпу |
| | | гал. бухгалтар | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 2 | К-с «Рассвет», в. Чамярыцы, т. 2-14-83 | гал. заатэхнік | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 3 | К-с імя Тэльмана, в. Тэльман, т. 2-10-58 | гал. ветурач | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 4 | К-с «Пераможнік», в. Малейкі, т. 2-65-44 | гал. аграном | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| 5 | К-с «Чырвоная ніва», в. Буркі, т. 2-14-96 | гал. ветурач | 1 | дом сядзібнага тыпу |
| **Мазырскі раён тэл. РЦЗН 8-02351-250-07** | | | | |
| 1 | К-с «Серп і молат», в. Барбараў, т. 9-65-32 | механікі | 2 | 2 кватэры, 1 дом |
| | | даяркі | 2 | |
| 2 | К-с «Палессе», в. Глініца, т. 9-74-37, 9-74-34, 3-45-98 | заг. фермы | 1 | |
| | | механік | 1 | |
| | | даяркі | 2 | |
| | | газаэлектразваршчык | 1 | |
| 3 | С-с «Чырвоны сцяг», в. Мялешкавічы, т. 9-43-46 | ветурач | 1 | 1 дом |
| 4 | К-с «Асавец», в. Асавец, т. 9-75-13, 9-74-19 | гал. ветурач | 1 | кватэра, дом |
| | | гал. заатэхнік | 1 | |
| **Брэсцкая вобласць** | | | | |
| **Жабінкаўскі раён тэл. РЦЗН 8-241-212-38** | | | | |
| 1 | К-с «Рассвет», в. Крыўляны | даяркі | 2 | дом без выгод |
| | | пастухі | 2 | |
| | | бульдазерысты | 2 | |
| 2 | С-с «Рагазнянскі», в. Рагозна | жывёлаводы | 2 | дом без выгод |
| **Камянецкі раён тэл. РЦЗН 8-231-212-99** | | | | |
| 1 | К-с імя Дзімітрава, в. Дзмітравічы | гал. энергетык | 1 | 1 кватэра |
| Пінскі раён тэл. РЦЗН 8-01653-507-95 | | | | |
| 1 | К-с імя Свярдлова, в. Хойнава | гал. бухгалтар | 1 | дамы, кватэры |
| | | аграном | 1 | |
| | | інжынер-механік | 1 | |
| | | заг. фермы | 1 | |
| Івацэвіцкі раён тэл. РЦЗН 8-01645-220-96 | | | | |
| 1 | К-с «Івацэвічы», в. Яглевічы | гал. заатэхнік | 1 | часовае жыллё, праз год работы -- катэдж |
| Пружанскі раён тэл. РЦЗН 8-01632-206-57 | | | | |
| 1 | К-с «1 Мая», в. Калазуты | даяркі | 4 | дамы без выгод |
| **Магілёўская вобласць** | | | | |
| **Чавускі раён тэл. РЦЗН 8-242-221-07** | | | | |
| 1 | К-с «18 партз'езд», в. Вайнілы, т. 2-17-44 | даглядчык жывёлы | 1 | 1 дом |
| | | даярка | 1 | |
| 2 | К-с «Чавускі», в. Пруцькі, т. 2-66-16 | даглядчык жывёлы | 1 | 1 дом |
| | | даярка | 1 | |
| | | эканаміст | 1 | |
| 3 | К-с «Галавенчыцы», т. 2-14-43 | трактарысты | 2 | 2 кватэры |
| | | даглядчыкі жывёлы | 2 | |
| | | даяркі | 2 | |
| 4 | С-с «Асінаўскі», в. Асінаўка, т. 2-19-68 | ветфельчар | 1 | 2 кватэры |
| | | трактарысты | 2 | |
| | | даяркі | 2 | |
| | | ветурач | 1 | |
| **Шклоўскі раён тэл. РЦЗН 8-239-216-42** | | | | |
| 1 | К-с «Шлях да камунізму», в. В. Лозіцы, т. 2-14-97, 2-77-42 | даяркі | 3 | 1 дом |
| | | заатэхнік | 1 | |
| | | токар | 1 | |
| | | эканаміст | 1 | |
| 2 | К-с імя Дзяржынскага, в. В. Межнік, т. 2-68-19 | аграном | 1 | 1 дом |
| 3 | К-с «Чырвоны Кастрычнік», в. Савеленкі, т. 2-15-50, 2-89-32 | жывёлаводы | 3 | 1 дом |
| 4 | К-с «Радзіма», в. Пудорава, т. 2-69-17 | ветурач | 1 | 1 дом |
| | | зоаінжынер | 1 | |

***Выпуск «Інфармбюро» падрыхтавалі Сяргей РАСОЛЬКА, Надзея НІКАЛАЕВА і Жанна КАТЛЯРОВА.***




## Ірына Корабава



Шлях абаяльнай і прывабнай Ірыны да працы ў галіне гумарыстычна-сатырычнага малюнка быў паслядоўным у адным — яна прафесіянальная мастачка, бо ў 1981 годзе скончыла Мінскае мастацкае вучылішча. Па сваёй спецыяльнасці мастака-афарміцеля працавала да 1988 года, потым захапілася народным касцюмам, пачала займацца аб'ёмнай аплікацыяй. Прымала ўдзел у разнастайных выстаўках па дэкаратыўна-прыкладному мастацтву, уступіла ў Саюз майстроў народных рамёстваў. У студзені 1995 года прыйшла працаваць у «Чырвоную змену», дзе і прыйшлося заняцца карыкатурай, хаця ранейшай практыкі не мела.

Ну што ж, застаецца пажадаць Ірыне дасягнуць поспехаў і ў гэтай сферы дзейнасці. Я асабіста нейкіх там сумненняў на гэты конт не маю. Таленавіты чалавек — ён таленавіты ва ўсім. І мяшкі грузіць, і пячэнне сартаваць.

**Леанід РАЗЛАДАЎ.**










### СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

## УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ ХАЦЕЎ БЫЦЬ ПАДОБНЫМ НА ПРЭЗІДЭНТАЎ І БАНКІРАЎ

**Галоўны рэдактар літаратурнага альманаха «Крыніца» — вядомы паэт Уладзімір Някляеў — падзяліў свой вольны ад асноўнай працы час на дзве паловы:**

— У адну палову вольнага часу я заняты тым, што здымаю фільм аб рэфарміраванні сельскай гаспадаркі, таму што мне таксама есці хочацца, а другую палову вольнага часу я прысвячаю падрыхтоўцы свайго аўтарскага канцэрта, які мяркуецца правесці ў Маладзечне 14 чэрвеня. На большае вольнага часу ў мяне проста няма.

Як прыхільнік здаровага ладу жыцця, Уладзімір Някляеў аддае перавагу перамяшчэнню па беларускай сталіцы на асабістым... веласіпедзе:

— Цяпер я збіраюся набыць пару новых веласіпедаў у дадатак да майго старога, таму што для розных участкаў горада падыходзяць розныя веласіпеды. На маім — з маленькімі коламі — добра катацца ў парку, для пераадольвання ўсіх нашых пад'ёмаў і спускаў неабходны абсалютна іншыя мадэлі. Папулярнага літаратара ніколі не прываблівала традыцыйнае калекцыяніраванне марак, паштовак ці кніг, аднак з-за гэтага зусім не знікла жывая цікавасць да мэтанакіраванага збіральніцтва не менш цікавых прадметаў:

— Я хацеў бы калекцыяніраваць тое, што калекцыяніруюць прэзідэнты, банкіры — аўтамабілі, самалёты, брыльянты, але... гэта пакуль што немагчыма з-за вельмі нізкіх ганарараў за выкананую мною працу.

Але, наогул, я люблю калекцыяніраваць людзей — тых людзей, якія пройдуць па тваім жыцці не міма, як вецер, а з табою застануцца. На жаль, нават на гэта ў мяне не хапае часу... Дарэчы, не так даўно я зайшоў да аднаго чалавека, якога лічыў сваім блізкім сябрам, каб проста пагаварыць пра жыццёвыя справы, і ён мне літаральна з парога заявіў наступнае: «Прабач, у мяне няма часу на сяброўства!..»

## КАСЯ КАМОЦКАЯ І ЛЯВОН ВОЛЬСКІ: НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ — МУЗЫКА

**Першая лэдзі беларускага рон-н-рола Кася Камоцкая і лідэр групы «НРМ» («Народная Рэспубліка Мроя») Лявон Вольскі нядаўна пераехалі ў прасторную новую кватэру недалёка ад кінатэатра «Партызан». Папулярныя музыканты катэгарычна адмаўляюць упартыя чуткі аб тым, што яны ўзялі шлюб. А таму Кася і Лявон аддаюць перавагу гутаркам аб праблемах беларускіх рокменаў, а не раскрыццю тайны асабістага жыцця.**

Асноўны клопат Касі і Лявона — рамонт кватэры, аднак за жыццёвымі клопатамі зорны дуэт не забывае пра мастацтва: нядаўна «НРМ» і «Новае неба» выпусцілі чарговыя магнітаальбомы, адпаведна «ЛаЛаЛаЛаЛа» і «Go Home» («Ідзі дамоў»), аднак дзе і калі адбудуцца канцэрты папулярных выканаўцаў, пакуль невядома, паколькі без пэўнай фінансавай дапамогі абсалютна немагчыма падрыхтаваць і правесці свята іскрыстай электрызуючай музыкі. Менавіта з-за адсутнасці мецэнатаў спыніў сваё існаванне ганарова адкрыты ў рэстаране «Вест-клуб» рок-клуб «Ruby Tuesday» («Рубінавы аўторак» — вядомы хіт «The Rolling Stones») — праект Касі Камоцкай.

Для самых цікаўных: прымадонна беларускага рока практычна не карыстаецца касметыкай, наведвае самыя звычайныя крамы, любіць гарбату і курыць цыгарэты «L&M».

### СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы:

**Па гарызанталях:** 2. Каблук. 6. Заявление. 9. Приспособление (прибор). 10. Кровельщик. 11. Толпа, общество. 12. Квартирант. 13. Дворец. 14. Аист. 16. Холод. 19. Типография. 20. Потребитель. 21. Хозяин. 23. Армяк, зипун. 25. Охрана. 26. Утро. 30. Известь. 32. Наказание. 33. Корыто. 34. Крестьянин. 35. Соблазн. 36. Крыльцо. 37. Чашка.

**Па вертыкалях:** 1. Ноябрь. 3. Калитка. 4. Дело. 5. Властолюбец. 6. Изъян. 7. Выговор. 8. Борец. 15. Мразь. 16. Друг. 17. Личность. 18. Взятка. 21. Горемыка. 22. Одежда. 24. Защитник. 27. Отказ. 28. Нажим, давление. 29. Обносок. 31. Жертва.



**Склала Ніна ГАРБАЧЭНКА.**
г. Мінск.

## НЯДЗЕЛЬНЫ АДПАЧЫНАК

Гэтую лагічную задачу склаў Г. Енідан з Балгарыі.

У нядзелю на пляцоўцы для гульняў дзяцей сабралася адпачываць некалькі сем'яў, у кожнай з якіх было па два дзіцяці. На падставе звестак, якія прыводзяцца ніжэй, паспрабуйце вызначыць імёны, прозвішчы, узрост і сваяцкія сувязі ўсіх прысутных на пляцоўцы, а таксама прафесіі дарослых...

1. Лабарантка і Стоева катаюць сваіх дачок на каруселях. 2. Брацік Галі на два гады старэйшы за свайго стрыечнага брата Дзімчу. 3. Зоя і Радзеў гушкаюць на арэлях па аднаму са сваіх блізнят. 4. Марына Пеева ў дзевяць разоў старэйшая за сваю дачку, але ўдвая маладзейшая за Нікаву. 5. Аня, Галя, Дзімча і Елі на год маладзей за Веска, які, дарэчы, нікому з іх братам не даводзіцца. 6. Стоеў старэйшы за Бістру роўна ў сем разоў і на год маладзейшы за маці Жыўка. 7. Хлопчыкі Каці і Іосіфа корпаюцца ў пясочніцы. 8. Блізняты касіркі гуляюць паасобку, але кожны пад наглядам бацькоў. 9. Пляменніца настаўніцы і механіка на каруселях не катаецца. 10. Лідзія, партніха, і яе муж Ілка на два гады маладзей за будаўніка.

* * *

Прозвішчы чытачоў, якія раней за іншых дашлюць свае адказы на змешчаныя суботнімі вечарамі галаваломкі, мы па традыцыі друкуем у наступных выпусках. Дарэчы, на крыжаванку, складзеную І. Хабянам, а таксама на іншыя заданні, змешчаныя адначасова з ёй, раней за іншых даслалі адказы З. Драган з Малорыты, І. Лешчанка з Мінска, І. Андрэеў з в.Слабада Петрыкаўскага раёна, І. Гармель з Брэста. Спадзяёмся, што і на гэты раз мы атрымаем ад нашых чытачоў шмат лістоў з адказамі.

## КРЫПТАГРАМА-ЗАГАДКА

У гэтай крыптаграме замест лікаў выкарыстаны касцяшкі даміно. Разгадаўшы ключавыя словы, падстаўце адпаведныя літары ў клетачкі пад касцяшкамі даміно. У выніку вы прачытаеце загадку. А потым разгадайце яе.

**Ключавыя словы:** 1. Палітычны або ваенны саюз дзяржаў. 2. Пушыстае шарсцяное пакрывала, вялізная хустка. 3. Філосаф, асветнік, заснавальнік ранняй чэшскай Рэфармацыі.

**Складаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
г. Мінск.







## ГАЛАВАЛОМКА

На малюнку 18 трохклетачных слупкоў з літарамі. У кожным слупку адна з літар лішняя. Калі правільна закрэсліць лішнія літары, то можна прачытаць вельмі слушную прымаўку.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
Клецкі раён.



*Шматгадовага шчырага сябра, мужнага чалавека, таленавітага літаратурнага крытыка, вернага сына Бацькаўшчыны Генадзя ШУПЕНЬКУ сардэчна віншуем з 60-годдзем! Ад усяе душы жадаем добрага здароўя, новых творчых поспехаў, сямейнага і асабістага шчасця!*

**Кабржыцкая, Рагойшы.**

Наступны нумар газеты «Звязда» выйдзе ў сераду, 10 красавіка г. г. Змена графіка выхаду выклікана святочным днём — другім днём каталіцкага Вялікадня.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 1758.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 8 9 10 11 12
П 1 2 3 5 6 7 8 9 10 11 12